PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 52 (1911) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 27 СНЕЖНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## КОЛЬКІ БЫЛО БЕЛАРУСАЎ?

Пасля заканчэння II сусветнай вайны на тэрыторыі польскай дзяржавы заставалася надалей шматлікая група людзей беларускай нацыянальнасці. Ліку беларусаў нельга абмяжоўваць толькі да аўтахтонаў, якія жылі на захад ад лініі Керзана. Сярод рэпатрыянтаў з савецкай Беларусі і Літвы шмат было таксама беларусаў, якія, уцякаючы перад сталінскімі парадкамі, рашаліся пасяліцца ў Польшчы. Вельмі мала тых рэпатрыянтаў пасялілася на Беласточчыне. Большасць іх раз'ехалася, найчасцей на землі новадалучаныя да польскай дзяржавы. У другой палове саракавых гадоў эканамічная і палітычная сітуацыя прымусіла выехаць шмат беларускіх аўтахтонаў з Беласточчыны на гэтыя землі. Ані ліку рэпатрыянтаў беларускай нацыянальнасці, ані ліку мясцовых беларусаў, выязджаючых на захад і поўнач краіны, немагчыма акрэсліць нават прыблізна. Беларусы-рэпатрыянты маглі выехаць з Савецкага Саюза ў Польшчу толькі тады, калі дэкларавалі польскую нацыянальнасць.

Па гэтых прычынах магчыма толькі, зразумела прыблізна, старацца акрэсліць лік беларусаў пражываючых на Беласточчыне і да гэтага выключна мясцовага паходжання.

Пасляваенная беластоцкая адміністрацыя рашыла трактаваць прынцыпова ўсіх праваслаўных як беларусаў, а католікаў - як палякаў. Такім чынам шматлікі этнаграфічны элемент каталіцкага веравызнання не быў увогуле браны пад увагу ў гэтай статыстыцы. Зрэшты, беларускамоўныя католікі ў большасці ўжо адчувалі сябе палякамі і палітычна вялі сябе як палякі. Таксама з другога боку, калі ідзе пра праваслаўных. Сярод людзей гэтага веравызнання было некалькі соцень людзей расейскай нацыянальнасці, але іх выразна вылучалі з агульнай масы праваслаўных. Было таксама некалькі чалавек праваслаўнага веравызнання, якія ў сапраўднасці мелі польскую на-

☞ Працяг на стар. 8






*Зімовая дарога.* **Фота Янкі Целушэцкага**

## ЦАРКОЎНАЯ АРХІТЭКТУРА XIX СТ. — НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ

У трыццатыя гады XIX ст. класіцызм, універсальны стыль, які амаль на стагоддзе вельмі наблізіў сакральную архітэктуру ўсіх хрысціянскіх веравызнанняў Еўропы, аджываў ужо свой век. Новай ідэалогіяй стаў рамантызм, які звярнуўся да народнасці і шукаў нацыянальных каранёў мінуўшчыне. У архітэктуры пачалася эпоха эклектыкі — неастыляў, гістарычных стыляў (гістарызм).

Царкоўная архітэктура XIX ст. на Беласточчыне развівалася ўжо ў новых палітычных умовах, у межах Расійскай імперыі. Ад часу Полацкага сабора ў 1839 г. існавала тут ужо толькі Праваслаўная царква Маскоўскага патрыярхату. Рашаючы ўплыў на форму цэркваў Беласточчыны мела адгэтуль развіццё архітэктуры ў Расіі.

У 1841 г. праекты цэркваў апрацаваны архітэктарам Канстанцінам Тонам (K. Thon, немец па паходжанні) рэкамендаваліся царскім указам як узор нацыянальнай расійскай архітэктуры. Ад таго і пайшоў стэрэатып, палітычны міф, які жыве дагэтуль не толькі ў польскамоўных распрацоўках, аб „тонаўскім стылі", службовым, штучным, банальным, у якім быццам будаваліся цэрквы аж да канца існавання царскай Расіі. Усё гэта толькі прапаганда, якая бярэцца і з ігнаранцыі, і з ндаобразычлівасці. У сапраўднасці царкоўная архітэкатура паміж 1841 і 1917 г. мае прынамсі тры фазы развіцця, з якіх толькі першую можна назваць тонаўскай.

Найбольш вядомая царква К. Тона гэта храм Хрыста Збавіцеля ў Маскве (1839—1883). Як відаць на здымку 1, з'яўляецца яна тыповым прыкладам цэнтральнага крыжова-купалавага храма з пяціглавіем, які з Візантыі распаўсюдзіўся на ўсю Еўропу, у сярэдневяковую ў Кіеўскай Русі, а ў эпоху Рэнесансу і на яе захадзе. Царква К. Тона мае яшчэ строга класіцыстычную рэгулярнасць, з таго стылю вядуцца і пеатвораныя ў вежы-званіцы барабаны бакавых купалаў. Наватарства Тона зводзіцца да эклектычнага знешняга дэкору. Маем тут і раманскія прываконныя калонкі і венецыянскія вострыя лукі (кілепадобныя) тарцоў скляпенняў і барочныя фігуры, нязгодныя з праваслаўнай традыцыяй і ўрэшце казачныя купалы, якія больш напамінаюць вярхі мячэцяў у Індыі, чым старарускіх цэркваў. Цэрквы К. Тона — гэта тыповая архітэктура пераходнага перыяду, ад класіцызму да эклектыкі. Назваць яе „нацыянальна-расійскай" ці „маскоўскай" можна было толькі ў эпоху рамантызму, які яшчэ глядзеў у гісторыю інтуітыўна і не валодаў навуковымі даследаваннямі сапраўднай архітэктуры даўняй Русі.

Уплыву тонаўскага стылю на царкоўную архітэктуру Беласточчыны зусім не відаць. У саракавыя, пяцідзесятыя, а нават шасцідзесятыя гады XIX ст. тут дамінаваў яшчэ

☞ Працяг на стар. 5




## АЎТАРЫТЭТ І ЦЭНЗУРА

Апошнім часам вакол нашых парламентарыяў стала згушчацца скандальная атмасфера. Нядаўна шырокім рэхам у грамадстве адгукнулася кніжка Анастазіі П., якая апісала свае сексуальныя прыгоды з народнымі выбраннікамі ў пасольскай гасцініцы. З нервовых рэакцыяў некаторых нашых паслоў на заяву Анастазіі П. аб намеры выдаць кніжку, а таксама з патрабаванняў, якія прагучалі з сеймавай трыбуны і якія разглядаліся на пасяджэнні клуба ЗХН пасля выхаду гэтай скандальнай кніжкі выразна відаць, што ў прадстаўнікоў народа адазвалася цяга да ўвядзення нядаўна ж ліквідаванай цэнзуры. У такі спосаб хочуць яны - аргументуюць - абараняць аўтарытэт найвышэйшых органаў улады.

Аўтары прапановы вярнуць цэнзуру забываюць, што некалькі гадоў таму самі змагаліся за яе ліквідацыю. Але тады яны не былі яшчэ ўладай. Відаць, кожнай уладзе лепей жывецца, калі ў друку пішуць аб ёй станоўча, а крытыкаваць дазваляецца ўсяго правінцыяльных чыноўнікаў, якія неахайна ажыццяўляюць рашэнні цэнтра. Прыпамінаецца мне, як яшчэ нядаўна тлумачылі неабходнасць існавання цэнзуры тым, што яна з'яўляецца "ахоўным парасонам" для друку, засцерагае рэдакцыі перад памылкамі, абараняе добрае імя партыі, урада, супрацьстаўіцца крытыканству і г.д., і т.п. І нават калі тадышнія газеты адкрыта не пісалі пра адмоўныя з'явы ў вярхах, народ і так ведаў сваё.

Сёння палітыкі, дзеячы, чыноўнікі - усе тыя, што ў сваіх выказваннях спасылаюцца на народ і прамаўляюць з высокіх трыбун ад яго імя - павінны свой аўтарытэт будаваць самі, без дапамогі такіх устаноў, як цэнзура. Здабываць аўтарытэт трэба сваёй працай, паводзінамі. Аўтарытэт не з'яўляецца вынікам атрымання месца ў парламенце, а найчасцей - наадварот. Але ж як жа часта ў паводзінах нашых выбраннікаў заўважаецца ігнаранцыя, перакананне ў тым, што ўладзе ўсё можна, дбайнасць пра свае прыватныя справы, крывадушнасць. Скандал з Анастазіяй П. напомніў, што паслам трэба весці сябе карэктна не толькі ў сеймавай зале /хаця і там яны непарламентарна лаюцца і галасуюць за неприсутных калег/, але і ў кожным іншым месцы і ў любых абставінах. Калі аўтарка інтымных успамінаў лжэ, пакрыўджаныя паслы могуць аддаць яе пад суд, калі не - дык хай гэта справа будзе клопатам гэтых жа паслоў і хай яны самі тлумачацца з неэтычных паводзін перад выбаршчыкамі. Тое ж самае і датычыць друку. Тры прайграныя парацэсы на працягу года могуць давесці да закрыцця газеты.

Палітыкі і дзеячы не павінны сумаваць па цэнзуры, паколькі ёсць магчымасць дабівацца праўды судовым шляхам. Але... не заўсёды ён выгадны. Куды выгадней папярэдзіць скандал, схаваўшы справу пад сукно. Але і памятаць таксама трэба, што аўтарытэт немагчыма стварыць пры дапамозе цэнзуры.

**В. ЛУБА**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Do nieprzytomnego leżącego na dworcu w Ełku wezwano lekarza, który stwierdził, że zgon nastąpił kilka dni wcześniej.*
*(Polityka, nr 50)*

* * *

*Mieliśmy stanąć na lewej i prawej nodze, w ogóle mieliśmy stanąć na nogach, a stoimy między nogami Anastazji P.*
*(Polityka, nr 50)*

Bo reformy nie są tak ciekawe jak majteczki.

* * *

*Pani opowiadała nam o ciąży,* — піша васьмігадовы хлочык, — *skąd się biorą dzieci i rysowała na tablicy. Mówiła też, że mamusia, co zabija dzieci w brzuchu to jest morderczyni, i że jeżeli ktoś wie, czyja mamusia zabiła dzidziusia, to żeby pani o tym powiedzieć. A kto nie powie to ma grzech śmiertelny.*
*(Kurier Podlaski, nr 235)*

**Паўлікі Марозавы, як бачым, не з'яўляюцца адно прыкметай сталінскай сістэмы. Аніякія аборты не перашкодзяць іхняму нараджэнню.**

* * *

*Stalin, jak się okazuje, był przeciwnikiem aborcji. Złośliwi twierdzą, że po prostu potrzebował żołnierzy. Problem rozwiązał w typowym dla siebie stylu. W roku 1936 po prostu wydał dekret zakazujący przerywania ciąży. (...) Dekret przewidywał bardzo surowe kary dla kobiet, które zdecydowały się na zabieg.*
*(Gazeta Współczesna, nr 12636)*

**Сталін, як аказваецца, у глыбіні душы быў прынцыповым хрысціянінам.**

* * *

*W kiosku pełen wybór białostockiej prasy. „Hiby" brak.*
*(Kurier Podlaski, nr 235)*

**Калісь было „шпанам" не разумець расейскай мовы. Сёння, як відаць, мод**на nie rozumieć białoruskawo jazyka.

* * *

*Rumuński chłop, który przed 52 laty sprzedał amerykańskiej firmie drewno ze swego lasu, a z powodu wybuchu wojny nie zdążył odebrać należności, dowiedział się niedawno, że ma na koncie 36 mln dolarów. (...) Amerykanie nie mogąc rozwiązać kontraktu z wierzycielem mieszkającym za żelazną kurtyną, ulokowali jego pieniądze w banku. Po 52 latach należność urosła do 36 mln dolarów.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 289)*

**Гэтак выглядае капіталізм па-амерыканску. А ў нас чалавек прадаў 10 гадоў таму карову, грошы паклаў у панчоху, і цяпер купіў за іх бутэльку віна.**

* * *

*FASZYSTA, ALE DOBRY KATOLIK*

*Mszę w intencji „świętej pamięci generała Franciszka Franko" odprawiono w niedzielę w łódzkim kościele pw. Podwyższenia Św. Krzyżana zamówienie Łódzkiego Klubu Konserwatystów. (...) W kazaniu Franko przedstawiony został jako zasłużony obrońca chrześcijaństwa oraz człowiek, któremu Europa Zachodnia zawdzięcza ocalenie przed zniszczeniem przez komunizm. Franko — wierny obrońca katolicyzmu przeciwstawiony został grzesznym pseudokatolikom, którzy opowiadają się przeciw zakazowi aborcji.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 288)*

* * *

*PPR została zarejestrowana w listopadzie* (1992 — рэд.). *W uchwale programowej zapisano popieranie własności prywatnej, żądanie obniżenia podatków, wprowadzenie ekonomii do podręczników szkolnych, skrócenie służby wojskowej z 18 do 6 miesięcy i rozdziału kościoła od państwa.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 288)*

**Гэтая не тая партыя, пра якую вы ўсе падумалі. PPR — Polska Partia Rock'n'rolla.**

* * *

*Ciekaw, co sądzą młodzi, sięgnąłem do „Czasopisu"... (...) Piszący tam „chłopcy" to efekt zabiegów wychowawczych pokolenia, którego poglądy ukształtował rosyjsko-sowiecki bigos historyczny.*
*(Nazukos, nr 19, Supraśl)*

**Так, хлопцы... Гуляйце сабе ў дэмакратаў і хрысціянаў колькі хочаце, але ўсё роўна з таго бігасу вам не выйсці. Не тое, што расейскага, але яшчэ і савецкага. Слава КПСС!**

## З мінулага тыдня

**Прэзідэнт РП Лех Валэнса звярнуўся да маршалка Сейма Веслава Хшаноўскага** з просьбай высветліць "скандальную справу" галасавання за непрысутных на пасяджэннях паслоў і прыцягнуць віноўнікаў да адказнасці "згодна закону і нормам грамадскага сужыцця".

**Міністр абароны Рэспублікі Беларусь Павел Казлоўскі** нанёс афіцыйны візіт міністру абароны РП **Янушу Анышкевічу**. Тэмай перагавораў былі пытанні развіцця сувязей у ваеннай галіне.

**Прафсаюз "Салідарнасць"** 14 снежня 1992 г. правёў ва ўсёй краіне двухгадзінную папераджальную забастоўку. Прэзідыум Краёвай камісіі сфармуляваў у адрас урада пастулаты павысіць мінімальную зарплату, кампенсаваць рост цэн, прадбачыць у бюджэце на 1993 г. кампенсацыю росту коштаў утрымання.

**На Шлёнску** звыш шасцідзесяці шахтаў аб'явілі генеральную забастоўку. Страйкам патрабуе спыніць спад рэальных заробкаў, скасаваць або рэструктурызаваць задоўжанасць шахтаў.

**Дні беларускай культуры** адбыліся ў Лодзі. Арганізатарамі мерапрыемства былі Лодзінскі дом культуры і рэдакцыя "Мастацтва". На працягу чатырох дзён /10-13 снежня/ можна было паглядзець выстаўкі карцін і фатаграфій, паслухаць канцэрты, пабываць на тэатральных спектаклях, купіць вырабы народных майстроў і пакаштаваць беларускія стравы. Сярод выканаўцаў была Кася Камоцкая і рок-гурт "Крама".

**Міністэрства унутраных спраў** падрыхтавала ўжо праекты новых законаў аб гранічным руху з дзяржавамі былога СССР /за выключэннем Літвы/. Прадбачваюць яны, між іншым, што запрашэнне і яго рэгістрацыя каштаваць будзе 1 мільён злотых, а той хто запрашае, будзе абавязаны плаціць за эвентуальнае лячэнне і дэпартацыю запрошаных гасцей. Міністэрства лічыць, што такім чынам лік турыстаў з усходу паменшыцца ў пяць разоў.

**У Ваўкавыску** чарговая нямецкая фірма пачала будаваць жыллёвы пасёлак для салдат і іх сем'яў, якія вяртаюцца з тэрыторыі былой ГДР. Гэта ўжо сёмая інвестыцыя на Беларусі, якую фінансуе нямецкі бок.

**Пашыраецца асартымент тавараў,** якія з Беларусі трапляюць на наш рынак. Апошнім часам гандляры з-за ўсходняй мяжы пачалі прывозіць... труны. Дамавіну можна купіць у іх ужо за 2 мільёны злотых.



## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"


- ✓ Каляндар на 1993 год.
- ✓ Калядныя абрады ў мінулым і сёння.
- ✓ Літаратурная старонка.
- ✓ Сталін, Ленін і „беларускія капіталісты".


# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### З ЛЕНІНЫМ У ГАЛАВЕ, З АСІНАВЫМ КАЛОМ У РУЦЭ

Своеасабліва адзначылі юбілей Садружнасці Незалежных Дзяржаў /СНД/ беларускія камуністы.

У дзень утварэння СНД камуністы-стараверы сабраліся ў знакамітых Віскулях і пад гукі гімна СССР убілі тры асінавыя калы ў белавежскую зямлю. Што хацелі выказаць гэтай акцыяй прыхільнікі сацыялістычнай ідэі - застаецца толькі здагадвацца. Магчыма, такім чынам яны спадзяюцца паскорыць распад СНД, а можа, намякаюць на расправу над трыма заснавальнікамі Садружнасці - Шушкевічам, Ельцыным і Краўчуком?

Зрэшты, у любым выпадку, не да твару верным ленінцам і ваяўнічым атэістам брацца на ўзбраенне забабонныя метады. Відаць, камуністы гатовы паклікаць на дапамогу хоць Бога, хоць д'ябла, абы вярнуць страчанае.

### НЕ ЗАПЛАЦІШ - НЕ ПРАЕДЗЕШ

Відавочна рэшткі берлінскай сцяны, што ўспрымаліся ва ўсім свеце як сімвал краху сацыялістычнай сістэмы, выраслі на сацыяльнай глебе "чырвонай" звышдзяржавы ў глухія непераадольныя бар'еры паміж былымі інтэрнацыянальнымі рэспублікамі. Новай эканамічнай сваркай паміж бліжэйшымі суседзямі Беларуссю і Літвой пагражае пастанова Вярхоўнага Савета Беларусі, згодна з якой з вадзіцеляў літоўскіх машын за праезд па тэраторыі Беларусі будуць брацца транзітныя падаткі: за легкавік - 10 долараў ЗША, за аўтобус - 40, за грузавік - ад 20 да 40. Транзітныя падаткі прадугледжаны таксама і са сродкаў паветранага і чыгуначнага транспарту.

Дарэмна чакаць, што пасля адмаўлення прапановы літоўскага боку аб ажыццяўленні праезду па тэрыторыі абедзвюх краін /яна прагучала на сустрэчы дэлегацыі Міністрэрства шляхоў зносін Літвы з транспартнікамі Беларусі/, Літва не выставіць у адказ свой прэйскурант.

### АГЕНЬЧЫКУ НЕ ПАДКІНЕЦЕ?

На Беларусі перапынены водпуск газы прамысловым прадпрыемствам, будаўнічым і транспартным арганізацыям. На мяжы апынуўся нават аварыйны запас звадкаванай газы.

Не дзіўна, бо ў самой рэспубліцы здабываецца толькі каля 2 мільёнаў тон нафты ў год, што забяспечвае прыкладна 8 працэнтаў патрэбы, ды і ад Расеі не дачакацца міласціны ў выглядзе нафтавай ракі. Таму два буйнейшыя прадпрыемствы па перапрацоўцы нафты ў Мазыры і Наваполацку цяпер загружаны толькі на 40-50 працэнтаў.

Між іншым, Беларусь, у адрозненні ад некіруемых расейскіх манапалістаў-нафтавікоў, выконвае свае дагаворныя абавязацельствы перад расейскімі прадпрыемствамі.

### ХТО НА НОВЕНЬКАГА?

Неўзабаве, відаць, будзе зарэгістравана яшчэ адна партыя, што нарадзілася ў незалежнай Беларусі. Арганізатары мяркуюць назваць яе партыяй сацыяльнай справядлівасці /ПСС/. Праграмныя мэты нованароджанай ПСС у многім паўтараюць дэкларацыі ўжо існуючых партый левага і цэнтрысцкага кірунку.

Ля вытокаў яе стаяць народныя дэпутаты Беларусі В. Іваноў, А. Нятылькін, В. Шарко, а таксама назначаны як "народны дэпутат СССР" П. Шацько.

Па меры набліжэння да парламенцкіх выбараў колькасць палітычных партый, якая на Беларусі ўжо перасягнула за дзесятак, будзе ўзрастаць. Дзе ж той компас, што дапамог бы зарыентавацца ў тузіне праграм звычайнаму беларусу?

### НЕ БАІМСЯ МЫ РАДЫЯЦЫІ!

Дакладная інфармацыя - верны шлях да пераадалення пачуцця страху перад радыяцыяй. Так лічаць у Беларуска-галандскім медыцынскім інфармацыйным цэнтры здароўя, які адкрыўся на мінулым тыдні ў Гомелі. Цэнтр будзе цесна супрацоўнічаць з беларуска-галандскай паліклінікай, якая дзейнічае ў Гомелі ўжо больш за год.

### АД "АЖЫНЫ" ДА "ЯГНЯТКІ"

Калі паліграфісты паспяшаюцца з выпускам, дык, нарэшце, на трэцім годзе незалежнасці рэспублікі і ў маленькіх беларусікаў з'явіцца "суверэнная" азбука.

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь рэкамендавала выкарыстоўваць "Вясёлую азбуку" з забаўнымі малюнкамі і вершыкамі на роднай мове для навучання ў старэйшых групах дзіцячых садкоў і ў першых класах.

### КРЫНІЦА ВЕРЫ

Трохметровы васьміканцовы крыж устаноўлены на праспекце Машэрава ў Менску на месцы былога знаходжання царквы Пакровы Святой Багародзіцы членамі сталічнага Праваслаўнага брацтва імя Архістраціга Міхаіла.

У 1936 годзе храм знеслі, згубіўся абраз Божай Маці, які, гавораць, вылечваў захворванні зроку, знікла пад зямлёй крыніца з гаючай вадой.

Царква аднаўляецца на добраахвотныя ахвяраванні.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ЗЯМЛЯ - АСНОВА СВАБОДЫ



**Польская сялянская партыя /ПСЛ/ на свой кангрэс, які праходзіў у Варшаве ў канцы лістапада 1992 г. запрасіла таксама госця з Беларусі. Быў ім старшыня Беларускай сялянскай партыі Яўген Лугін.**

**ЯЎГЕН ЛУГІН** - былы палкоўнік Савецкай Арміі. З мундзірам развітаўся 6 гадоў таму, яшчэ ў пачатку гарбачоўскае перабудовы. Паверыўшы ў шматлікія тады абяцанні, вярнуўся ён у родную вёску, пабудаваў там дом, хацеў заснаваць сельскагаспадарчы кааператыў - гаспадарку фермерскага тыпу. Хутка аднак пераканаўся, што камунізм на вёсцы запусціў карані глыбока. Абяцанні ў галіне рэформы сельскай гаспадаркі засталіся ўсяго пустымі словамі.

Але не быў бы спадар Лугін афіцэрам, каб паддаўся, апусціў рукі без барацьбы. Ніяк не мог ён згадзіцца з матэрыяльным і духоўным спусташэннем вёскі, якое бачыў паўсюдна, у кожным закутку Беларусі. Пачаў шукаць аднадумцаў.

Такія, коратка кажучы, былі пачаткі руху, што 23 лютага 1991 года пераўтварыўся ў **Беларускую сялянскую партыю.** У гэты дзень у Менску сабраліся прыхільнікі зямельнай рэформы на Беларусі і, каб адстойваць свае інтарэсы, заснавалі партыю. Старшынёю яе не мог стаць ніхто іншы як Яўген Лугін. Ён быў ужо добра вядомы ў асяроддзі, дзякуючы сваім шматлікім падарожжам па Беларусі, падчас якіх не толькі знаходзіў палітычных прыхільнікаў, але і падрабязна знаёміўся з сітуацыяй у сельскай гаспадарцы ды здабываў дасведчанасць у грамадскай дзейнасці.

Што сабою ўяўляе БПС? У яе праграме чытаем, між іншым: *Палітыку, эканоміку і духоўнае жыццё Беларусі ахапіў глыбокі крызіс. Гэта вынік камуністычнай дыктатуры. Эксперымент па стварэнню грамадства з планавай эканомікай і ўсеагульнай уласнасцю паўсюдна праваліўся. Асабліва цяжкія страты прычыніла гэтая сістэма сялу, зямлі і прыродзе. Быў разбураны сялянскі ўклад жыцця, згублены маральныя каштоўнасці і вера ў Бога. Для адраджэння сяла і сялянства і яго абароны патрэбная новая палітычная сіла. Такая сіла ўжо дзейнічае. Гэта Беларуская сялянская партыя.*

І яшчэ: *Беларуская сялянская партыя ёсць палітычная арганізацыя парламенцкага тыпу. Яна створана для абароны палітычных і сацыяльных правоў і эканамічных інтарэсаў сялянства. Першачарговай задачай партыя лічыць ажыццяўленне зямельнай рэформы. Сутнасць яе - адраджэнне сялянства шляхам вяртання ім права ўласнасці на зямлю і іншыя сродкі вытворчасці, права выбару форм гаспадарання і права распараджэння прадуктамі сваёй працы.*

Беларуская сялянская партыя выступае за незалежнасць Бацькаўшчыны, адраджэнне беларускай дзяржаўнасці, нацыянальнай свядомасці народа, яго гісторыі, культуры, мовы і веры. БПС не мае сваіх прадстаўнікоў у Вярхоўным Савеце. Падтрымоўвае дэмакратычную апазіцыю, хаця не заўсёды бескрытычна ставіцца да дзейнасці дэпутатаў з БНФ і яго сатэлітаў.

БПС - партыя памяркоўная, яна не ставіць немагчымых для рэалізацыі прапаноў. Не націскае таксама на звышхуткія тэмпы рэформы. Галоўным сваім козырам, здаецца, лічыць паслядоўнасць і мэтанакіраванасць у дзейнасці. На сённяшні дзень партыя сваю ўвагу засяроджвае на пабудове салідных структур, збірае досвед дзеля палітычнай барацьбы і спосабаў гаспадарання.

Яўген Лугін кажа: *Пасля 70 гадоў камунізму, праводзіць рэформу з людзьмі, якія выраслі ў гэтай сістэме, тое ж самае, што выпакладаць бычка і чакаць ад яго прыплоду. Таму вельмі важна, каб беларусы як найбольш ездзілі за мяжу і вучыліся гаспадарыць на станоўчых прыкладах.* Вялікую ўвагу БПС прысвячае супрацоўніцтву з ПСЛ. Польшча ж не за гарамі, сюды найлягчэй паехаць, без праблемаў можна дагаварыцца ды ёсць тут чаму вучыцца, лічыць старшыня БПС.

Яўген Лугін у нашай рэдакцыі дзяліўся таксама сваімі поглядамі на грамадска-палітычную сітуацыю ў Рэспубліцы Беларусь. *Калі б камуністы, якія кіруюць сённяшнім Вярхоўным Саветам,* - казаў ён, - *згадзіліся на рэферэндум, хто ведае, ці падчас дэмакратычных выбараў не паўтарыўся б літоўскі варыянт. Вельмі праўдападобна, што ў сувязі з агульным крызісам, які ахапіў нашае грамадства, яны маглі б выйграць выбары. Але, калі яны насміхаюцца з волі выбаршчыкаў, ігнаруючы звыш 400 тысяч подпісаў пад патрабаваннем правядзення рэферэндуму, губляюць рэшткі сімпатыі ў народзе.*

Ці аднак да выбараў здабудзе сабе сімпатыкаў БПС? Пакуль што грамадская база ў партыі слабая. Тых, чые інтарэсы бароніць БПС - фермераў - усяго 2 тысячы. **Толькі 2 тысячы чалавек на Беларусі ўзялі зямлю ў свае рукі.** Гэта невялікая частка працэнта і салідная падтрымкі партыі пакуль што даць не можа.

Але адстаўны палкоўнік Я. Лугін аптыміст. Ён, як я ўжо адзначыў, не з тых, хто апускае рукі перад нягодамі. Упарта разбудоўвае Беларускую сялянскую партыю і пашырае ў грамадстве ідэю зямельнай рэформы - прыватызацыі зямлі і перадачы яе селяніну-гаспадару. Усё гэта робіць на грамадскіх асновах. Дзейнасць партыі, можна сказаць, абапіраецца на вайсковую пенсію спадара Лугіна. Ці дастаткова будзе гэтага, каб эфектыўна адзначыцца ў палітычнай барацьбе - убачым. Аднак ужо сёння відаць, што без вырашэння сялянскага пытання не будзе магчымай пабудова нармальнай, незалежнай і дэмакратычнай Беларускай Дзяржавы.

Беларуская сялянская партыя і яе старшыня Яўген Лугін гэтыя дзве справы лічаць асноўнымі ў сваёй дзейнасці.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
Фота аўтара

## ПЕРШЫЯ СУСТРЭЧЫ

Калі пасяліўся я ў Ольштыне, першыя мае сустрэчы з беларусамі прайшлі ў студэнцкім асяроддзі. Уладзімір Пац, вядомы дзеяч БАС запрасіў мяне на семінар студэнтаў беларускай нацыянальнасці ў Мельне. Там правёў я два дні разам з Юры Туронкам, Сакратам Яновічам і Яўгенам Мірановічам. Калі ў Беластоку ўзнікла Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, мы ў Ольштыне, дзякуючы Валодзі Пацу, мелі свой мясцовы Беларускі выбарчы камітэт. Увайшлі ў яго кандыдаты Антон Яноўскі, Тамара Яноўская, Юры Матвіцкі і я. У выбарах за гэтых кандыдатаў прагаласавала 347 чалавек. Зараз пасля выбараў зайшлі да мяне Валодзя Пац і Міраслаў Урбановіч. Згаварыліся, што ствараем Тэрытарыяльную раду БДА. І так пачалася наша марудная праца дзеля згуртавання беларусаў Ольштына і Ольштынскага ваяводства. Я ведаў, што пасля II сусветнай вайны апынулася на гэтым абшары шмат людзей з Усходу. Многа таксама прыехала сюды моладзі з Беласточчыны ў пошуках працы.

15 сакавіка гэтага года прайшоў у квартале Картова-2 заснавальніцкі сход Тэрытарыяльнай рады БДА. На сходзе прысутнічала 8 чалавек. Мы дамовіліся, што будзем сустракацца ў кожную апошнюю нядзелю месяца а 17 гадзіне. Мэтаю кожнай такой сустрэчы мае быць вызначэнне плана працы на наступны месяц. На сустрэчы 15 сакавіка стаў я старшынёю Тэрытарыяльнай рады ў Ольштыне. Пазней адбыўся шэраг мерапрыемстваў, у часе якіх сустракаліся мы з журналістамі, артыстамі ды прадстаўнікамі іншых нацыянальных меншасцяў. Удзельнічалі мы таксама ў навуковых сесіях. Дзейнасць наша сустрэлася са станоўчым успрыманнем мясцовай прэсы.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## АДЫХОДЗЯЦЬ

Нядаўна Дубічы-Царкоўныя развіталіся са сваім жыхаром Мікалаем Тамашуком. Памёр ён на 93 годзе жыцця. Мікалай Тамашук /сын Тараса/ быў родным братам Андрэя Тамашука, які ў 20-х гадах у атрадзе майго сваяка Германа Шыманюка-Скамароха змагаўся за незалежную Беларусь. Сталін і яго памагатыя выбілі гэтых змагароў датла ў 30-х гадах. Андрэя Тамашука злавілі палякі недзе каля Беластока і пасля суда расстралялі ў 1923 годзе. А. Тамашук пакінуў бацькам запіску, у якой адракаецца ад свайго бандыцкага мінулага, злачынствам лічыць тое, што рабіў /"бандытызмам ніхто яшчэ свабоды не адваяваў"/, ды просіць у бацькоў прабачэння. Запіска гэтая перахоўваецца цяпер у сярэдняга брата Андрэя - Агафона, у Гайнаўцы. Запіску гэту Андрэй пісаў незадоўга да свае смерці. Была гэта ягоная апошняя воля. У той час, калі Андрэй дзейнічаў у атрадзе Скамароха, Мікалай Тамашук быў у польскім войску. Ні патрыятызмам, ні камунізмам ён не вылучаўся. Быў простым беларускім селянінам. Гэта толькі ў кнігах пісалася пра нашых "вялікіх патрыётаў". Мікалай свайго бацьку Тараса пераўжыў на 15 гадоў. У той час як палякі палявалі на Андрэя, яго бацьку, Тараса, паліцыя дапытвала пра партызан - між іншым прыпякалі яго распаленымі камянямі. Ніх гэтых допытаў не вытрымаў і павёў паліцыю ў Белавежскую пушчу. Партызаны аднак паспелі ўцячы.

З ўсёй сям'і жыве яшчэ Агафон у Гайнаўцы /ад чатырох гадоў хварэе/ і сястра Вольга ў Орлі.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




**Redaktor Naczelny "Niwy"**

Proszę o spowodowanie, aby autor artykułu "Wracamy bohaterów", który ukazał się w Nr 48 z dn. 29.11.1992, na łamach "Niwy" sprostował nieprawdziwe fakty, które podał do publicznej wiadomości /cytuję - jakoby dyrektorka szkoły w Nowoberezowie zbierała pieniądze od każdego ucznia, strasząc ich, że jeśli nie będą płacić, pójdą uczyć się do Nowokornina/.

Mam nadzieję, że sprostowanie i przeproszenie ukaże się na czołowym miejscu w "Niwie", podobnie jak zasłyszana plotka pod adresem mojej osoby.

Z poważaniem
**I. DAWIDZIUK**

**Ад рэдакцыі:** Інфармую спадарыню Ірэну Давідзюк, што буду заахвочваць аўтара артыкула "Вяртаем герояў" яшчэ раз паехаць у Новаберазова і да канца высвятліць усе кантраверсійныя пытанні. Рэдактар Мікола Ваўранюк паясняе аднак, што напісаў тое, што гаварылі яму людзі. Мы са свайго боку больш дакладна разбяромся ў сітуацыі і калі акажацца, што мы напісалі няпраўду, абавязкова выправім і перапросім.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

## БАЗАР У ГАРАДКУ

Базар у Гарадку, пра які пісала „Ніва" ў 49 нумары, дае нам, вясковым пенсіянерам, шанц перажыць гэты цяжкі час. Нашы пенсіі не дазваляюць нам купляць у прыватызаваных крамах, дзе цэны на сто працэнт вышэйшыя, чым у „рускіх" на базары.

Так, напрыклад, пачак масла ў краме каштуе 8.300 зл., а на базары 4.000 зл., кілаграм жоўтага сыру 42 тысячы зл. у краме, а 20 тысяч у „рускіх", кансерва 8 і 4 тысячы. Каб не базар, не ведаю, як прыйшлося б жыць.

Дзякуючы „рускім" можна таксама купіць за 100 тысяч злотых нямецкі спірт. Паўлітра добрай водкі каштуе тады 25 тысяч. Нам, пенсіянерам, без гарэлкі не абыйсціся. Зразумела, што мы самі яе не п'ем, але ніхто табе нічога не зробіць і не дапаможа, калі не паставіш бутэльку. А калі нейкі дзядзька-спекулянт не хоча танна прадаць свой тавар, тады няхай вязе яго куды хоча; нам спекулянты непатрэбны. І так ужо даволі з нас скуру здзіраць. Калі перастануць пускаць „рускіх", бяда будзе нам, рэнцістам і пенсіянерам. Курань усіх не накорміць.

Ваш чытач нашай „Нівы",
**Гарадок**

## НОВЫЯ ГРАНІЧНЫЯ ПЕРАХОДЫ НА ЎСХОДНЯЙ МЯЖЫ

У панядзелак 7 снежня г.г. у Мерках каля Ольштына сустрэліся прадстаўнікі Управы Рады Міністраў, Гранічнай стражы і Управы аховы дзяржавы з ваяводамі ўсходніх прыгранічных ваяводстваў. Галоўнай тэмай сустрэчы былі гранічныя пераходы на "ўсходняй сцяне" Польшчы.

Дазнаўся я, што ў бліжэйшым часе будуць адкрыты новыя пераходы: Славатычы - Дамачэва /Бяла-падляшскае ваяводства/, пераход для таварнага руху Бабровнікі - Бераставіца /Беластоцкае ваяводства/, пераход Бязледы - Баграціёнаўск з адзінаццацю паласамі і з дазыметрычнай брамкай, а таксама Карчова - Кракавец /Пярэмышльскае ваяводства/.

Разбудуецца пераход Бранева - Мамонава ў Ольштынскім ваяводстве; звязана гэта з будовай "берлінкі" - аўтастрады Берлін - Калінінград. Праект пабудовы адрэзка Эльбланг - Калінінград сфінансавалі шведы; з гэтым праектам зацікаўлены бакі звернуцца ў адзін з лонданскіх банкаў за крэдытам на будову. На сустрэчы прапанавалася таксама ўшчыльніць усходнюю граніцу. На гэту мэту ўрад адводзіць каля 700 мільярдаў злотых і прызначаюцца яны на тэхнічнае аснашчэнне Гранічнай стражы, Управы аховы дзяржавы і паліцыі. Каб памагчы ваяводам, створана міжведамасная камісія па справах гранічных пераходаў.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# КАМУНІЗМ І МОГІЛКІ

Гартаючы старыя нумары "Нівы", я наткнуўся ў 32-н-ры на нататку Мікалая Панфілюка "Што пасеялі, тое і пажынаюць", дзе ён закідае Алесю Барскаму брак адваргі пяць гадоў таму напісаць крытычна пра стан праваслаўных могілак на Беларусі. Як быццам бы М. Панфілюк толькі што нарадзіўся і не ведае, якая сітуацыя была ў тыя гады. Калі б нават А. Барскі меў адвагу і напісаў аб гэтым у "Ніву", то сумняваюся, ці "Ніва" мела б адвагу гэта надрукаваць.

Я хачу апісаць свае перыпетыі, калі ў газеце надрукавалі мае крытычныя заўвагі наконт вытворчага сельскагаспадарчага кааператыва /якія далей буду называць калгасам/ у вёсцы Чаромсе ў жніўні 1953 г. Праўда, тады былі больш "вострыя" часы, хаця Сталін ужо памёр, Берыя быў арыштаваны і надыходзіла нейкая палітычная адліга. З лістоў, якія даходзілі да мяне ў Ленінград, дзе я канчаў апошні курс інстытута, я даведаўся, што ў сяле Чаромха арганізавалі калгас. Правялі хутка ліквідацыю цераспалосіцы, калгасу далі самыя лепшыя ворныя землі, амаль у адным кавалку, а сялянам, якія не ўступілі ў калгас, далі зямлю ў розных месцах, злучыўшы яе ў розныя зямельныя ўчасткі.

Прыехаўшы дамоў на канікулы, я аж ахнуў, калі паглядзеў на палі калгасныя і аднаасобных гаспадароў. У калгасе збожжа было хілае, рэдкае, зарослае пустазеллем, а ў аднаасобнікаў - высокае, густое, аж прыемна было глядзець. Калі я яшчэ паглядзеў на бязладдзе, якое панавала ў іх навокал, я не вытрымаў і напісаў аб гэтым у "Беластоцкую газету". Я не думаў, што мае крытычныя заўвагі надрукуюць, а спадзяваўся, што газета зверне ўвагу павятовым уладам у Бельску-Падляшскім, а тыя дапамогуць калгасу навесці парадак. Пасля я паехаў на дыпломную практыку на малых гідраэлектрастанцыях на рацэ Радуні каля Гданьска і ў Еленягурскім павеце. Калі вярнуўся дык даведаўся, што "Беластоцкая газета" надрукавала маю крытычную занатоўку, папярэдзіўшы яе нейкай цытатай з твораў В. І. Леніна. Праз два тыдні мне трэба было ехаць назад у Ленінград, каб пісаць дыпломную працу. Я ўжо гатовіўся да выезду, калі раптам з'явіўся ў Чаромсе і прыйшоў да мяне нехта з сельскагаспадарчага аддзела з Бельска-Падляшскага з прэтэнзіяй, што я пакрытыкаваў калгас, замест таго, каб яму дапамагчы. Я стаў пасняць, што дапамагчы яму можа толькі ўлада; я толькі што вярнуўся з практыкі і збіраюся ехаць назад у Ленінград. Чалавек гэты выйшаў вельмі злосны. За два дні да майго выезду прыйшоў да мяне настаўнік з вёскі Чаромхі і сказаў мне, што быў ён учора на сходзе калгаснікаў, на якім мяне страшна аблаялі, назвалі мяне ворагам сацыялізму і калгасаў, і што мой бацька быццам быў "кулаком" і што сход выступіў з просьбай да ўлад, каб мяне адклікалі з вучобы ў Ленінградзе.

Аднак у Міністэрстве вышэйшай адукацыі нічога мне не сказалі, далі пашпарт і я пераехаў граніцу. Доўгі час было ціха і толькі ў лістападзе Польскае пасольства ў Маскве прыслала пісьмо ў Польскае зямляцтва студэнтаў і ў інстытут з просьбай прыслаць ім маю характарыстыку. Характарыстыка з інстытута была вельмі добрая, бо яе мне паказала сакратарка ў дэканаце і відна нічога дрэннага аба мне не напісалі ў Зямляцтве, бо я спакойна закончыў дыпломную працу і 22.12.1953 г. я з вельмі добрай ацэнкай яе здаў і на пачатку студзеня 1954 г. вярнуўся дадому з дыпломам магістра-інжынера. І далей усё было ціха. У лютым 1954 г. мяне вызвалі ў Міністэрства вышэйшай адукацыі і з 1 сакавіка я атрымаў працу ў праектным бюро ў Міністэрстве энергетыкі ў Варшаве. І нечакана ў красавіку 1954 г. я атрымоўваю ў працы загад, каб з'явіцца ў ЦК ПАРП да нейкага таварыша Мруза. ЦК ПАРП апекаваўся выпускнікамі замежных вышэйшых устаноў. Я тады нават не падумаў, што яшчэ цягнецца тая старая справа з крытыкай калгаса. Аднак таварыш Мруз мне яе прыпомніў. Паказаў мне пратакол са сходу калгаснікаў у вёсцы Чаромсе ад 12.02.1954 г. і пісьмо Сельскагаспадарчага аддзела ВК ПАРП у Беластоку ад 10.03.1954 г., пад якім падпісаўся нейкі таварыш Т. Скуба, у якім закідалі мне:

1/ Варожасць да калгаса, якому я ніколі не дапамагаў.

2/ Дапамогу майму суседу ў Чаромсе Паўлу Ш. пісаць скаргі і паклёпы на калгас.

3/ Уладкаванне свайго швагра на працу на чыгунцы, каб такім чынам засцерагчы яго стаць членам калгаса і працаваць у ім.

4/ Супраціўленне таму, каб мая матка і сястра маглі працаваць у калгасе, а не на сваіх адзінаццаці гектарах.

5/ Бунтаванне маёй маткі супраць абавязковым пастаўкам /таму яна іх не здае/.

Таварыш І. Мруз даў мне кавалак паперы і сказаў мне напісаць апраўданне на ўсе гэтыя закіды.

Калі я напісаў, ён папрасіў мяне напісаць тое ж другі раз, каб параўнаць іх.

Я напісаў, што ўсё гэта хлусня, якая не вытрымлівае ніякай крытыкі. Праз месяц прыйшоў адказ з Ваяводскага камітэта ПАРП, у якім падавалася, што пастаўлены мне закіды з'яўляюцца прыдуманымі і што да мяне не трэба больш мець ніякай прэтэнзіі. Але таварыш Мруз сказаў мне па шчырасці, што я маю аднак шчасце, што ўся гэтая шуміха пачалася тады, калі я пісаў ужо дыпломную працу, бо калі б здарылася гэта раней, то маглі б мяне адазваць з Ленінграда да часу расследавання справы. А пасля невядома, што б улады пастанавілі. І ўсё гэта датычыла толькі калгаса ў Польшчы. А М. Панфілюк хоча, каб А. Барскі крытыкаваў у прэсе Савецкі Саюз. Ці аўтар калісьці сам гэта хоць з адзін раз зрабіў?

А далей, ці камунізм ёсць вінаваты за тое, што не шануюць там могілак. Напэўна так. Бо дзе разбураюць цэрквы, там нішчаць могілкі. Але ці толькі? Я бачыў могілкі ў Грузіі, у Арменіі. У Грузіі могілкі яшчэ прыгажэйшыя і больш упарадкаваныя, чым у Польшчы, а там быў таксама камунізм. У Арменіі таксама вельмі добра апекаваліся могілкамі. На Украіне, дзе я быў, могілкі таксама дагледжаныя. Праўда, там помнікі скромныя, крыжы зроблены з металу, а не з мармуру, але амаль кожная магіла агароджана і агароджаныя могілкі. Помнікі на могільніках залежаць ад дабрабыту насельніцтва. Калі насельніцтва багатае, то і помнікі ставяць дарагія. Я думаю, што Мікалай Панфілюк памятае, якія былі могілкі перад вайною, якія тады ставілі помнікі. Многа крыжоў на могілках было з дрэва, частка з металу і з цэменту. Толькі з 1960-70 гадоў паяўляюцца на праваслаўных могільніках на Падляшшы помнікі з мармуру і тэразіту. А тады там не было капіталізму. Я бачыў хрысціянскія і мусульманскія могільнікі ў Індыі, Пакістане і ў Непале, і там яны выглядаюць горш, чым на Беларусі. А там ніколі не было камунізму. Выгляд могільнікаў залежыць і ад традыцый насельніцтва. У Эстоніі на пратэстанцкіх могільніках няма агароджы, няма помнікаў, на магілах ляжаць толькі пліты з надпісамі. Таксама ёсць і на пратэстанцкіх і баптысцкіх могільніках у багатых ЗША. Так што, паважаны М. Панфілюк, не трэба быць такім аднабаковым і абвінавачваць кагосьці ў тым, чаго нельга даказаць, альбо ў чым і сам ёсць вінаваты.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**

## ЦІХІ КАНЕЦ МЯСТЭЧКА

Часцей жыву я цяпер у мястэчковым доме нябожчыка бацькі, пакідаючы вялікі Беласток назаўсёды. Больш і больш падабаецца мне ціш ды бязлюддзе. У мясцовай краме - дзве кумпястыя экспедыенткі і адзін худы кліент; або анікога. Выгода! Але, каму?

Такім заглухлым не памятаю свайго мястэчка, а мая ж памяць датуецца 1940 годам. У ім не відаць дзяцей. Адбылося ў карчмаватым рэстараніку чаканае вяселле, ды і тое так нешчаслівае, што мужчынаў з яго павезлі ў шпіталь /напапіваліся ашуканай гарэлкі ад саветаў/. Наша, Сакольская, вуліца - асфальтаваная і прэзентацыйная - налічвае каля дваццаці дамоў; дакладна немагчыма сказаць /ёсць паўруіны/. Кожны трэці ўжо мёртва-пусты; у некаторых нехта пажывае наездамі, як я. Дзетак жа гадуюць у трох; у рэшце толькі дажываюць да смерці.

Новыя - мураванкі - пабудавана чатыры, але не апошнім часам.

З чаго жывуць мястэчкоўцы? Старыя - з рэнтаў і агароду /мушу дадаць: задаволеныя яны наогул/. Патрэбы іхныя заўсёды знаходзіліся на ўзроўні цывілізацыйнага прымітыву.

Маладых і тых у працоўным узросце ацэньваю колькасна на трыццаць працэнтаў. Дзе яны зарабляюць? Гарбарная фабрыка і фабрычкі падаюць; ПГР канае; ГС скурчыўся; у спекулянтаў няма руху /якія грошы па людзях, гэткі і збыт/. Гміна дае трохі камунальнай работы.

Мястэчка - не вёска; пад тры тысячы чалавек у ім. Годам назад з'явіўся быў тэлевізарны майстар, аж з Лодзі. Не жулік з шырокім горлам; акуратны хлопец тутэйшых бацькоў, які задумаў вярнуцца сюды жыць. З добрай калькуляцыяй. Завалілі яго папсаванымі апаратамі ды на коратка; рэдка каму па кішэні рамонт /у аднаго самотнага дзеда нема стаяць чатыры лямпавыя тэлевізары ад дачок і ўнукаў у свеце/.

Наглядаецца аднаасабовы бізнес. Дзіўны: начуе дзялец тут, а днюе ў Беластоку /туды ездзе штодзень шэсць рэйсавых аўтобусаў, пераважна поўных/. Пабагацелых назбірацца з дзесятак. Пазнаць іх, бо разжыліся на сярэдняй маркі аўтамашыны. Досвіткам прэцца адзін за адным на беластоцкую шашу; вяртаюцца позна і ўжо не такім гуртам. Туды і назад. Туды імкліва, з пасцелі. Назад марудна, маючы час.

Падумаецца: маё мястэчка зрабілася далёкім прадмесцем Беластока; задалёкім, за трыццацю кіламетрамі пушчы, што пачынаецца ад праваслаўных могілак у Супраслі. Ды, як быць? А каму ж прадасі ты бацькаву тую "вілу"?! Наўрад, ці задарма хто ўзяў бы яе... Аднаго вугалю на зіму не накупіўся б.

У камуністычную доўгую паўзу мястэчка страціла натуральную яму ролю навакольнага сельскага рынку. Адначасна са зніштажэннем пад корань гаспадароў перастае яно мець ранейшы сэнс, рахунак. Тады - што з ім будзе? Перш за ўсё моцна яно паменшае, мінімум да цяперашняе чвэрці /каратае ў ім дзень да вечара мноства лішняга люду, нахлебнікаў казны/. Ягоная функцыя зменіцца ў прыдатак Беластоку, скажам, сыравінны, і ў летнік. Даволі дзесяці гадоў, каб высыпалася прэч усякая непатрэбшчына.

Зажыве беласценнай заможнасцю правінцыйнай буржуазіі, у безвясковай роўнядзі палёў і свежага лесу вакол.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# З ДРУКУ

## СА СТАРШЫНЁЙ КАМІСІІ ПА СПРАВАХ РЭЛІГІЙ ПРЫ САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСЕЕМ ЖЫЛЬСКІМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ БЕЛАПАН МАРАТ УРУБЛЕЎСКІ

*- Аляксей Іванавіч, ці ўплывае рэлігія на палітычныя падзеі ў Беларусі?*

- Амаль усе палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі імкнуцца прыцягнуць да саўдзелу ў ажыццяўленні сваіх праграмных мэт тую ці іншую, а калі атрымаецца, то і некалькі рэлігійных канфесій.

Не праходзіць амаль ніводнай акцыі, дзе б не ўдзельнічалі прадстаўнікі рэлігіі. Асабліва наглядна праяўлялася гэтая тэндэнцыя ў час вялікіх палітычных кампаній: рэферэндум, выбары народных дэпутатаў /.../

*- Аляксей Іванавіч, апошнім часам вядзецца многа размоў аб дзейнасці прадстаўнікоў польскай каталіцкай царквы на Беларусі...*

- За апошнія гады рэзка ўзрасла колькасць каталіцкіх прыходаў. Калі ў 1988 годзе іх было 121, то на першае верасня гэтага года - ужо 288. /.../ На сёння з 130 ксяндзоў у касцёлах рэспубліцы толькі 48 мясцовыя. Усе ж астатнія - з Польшчы. Многія з іх не абмяжоўваюцца правядзеннем богаслужэнняў у тых касцёлах, куды іх запрасілі, а імкнуцца яшчэ стварыць рэлігійныя абшчыны, павялічыць колькасць прыходаў для сябе і стварыць такім чынам "вакансіі" для запрашэння іншых. Услед за ксяндзамі едуць манашкі, вядуць актыўную работу з дзецьмі, у тым ліку ў школах. Адбываецца самая сапраўдная цапная рэакцыя. Вядома, не апошнюю ролю тут адыгрываюць матэрыяльныя стымулы.

## РЭЛІГІЯ І ПАЛІТЫКА

Праблем, звязаных са знаходжаннем польскіх ксяндзоў, было б значна менш, калі б яны абмяжоўваліся душпастырскай дзейнасцю, строга прытрымліваліся законаў краіны знаходжання, паважалі мову, традыцыі не народа. Аднак некаторыя з іх вядуць сябе па-іншаму. Так, польскі ксёндз у горадзе Шчучыне К. Вуйцяк, каб прымусіць штаб воінскай часці вызваліць займаемае ім памяшканне былога манастыра, заклікаў веруючых блакіраваць узлётна-пасадачную паласу аэрадрома.

Аналагічны прыклад у вёсцы Гальшаны: каб вывесці музей з будынка былога манастыра, ксёндз С. Бартошак разам з веруючымі пастаянна аказваў псіхалагічнае ўздзеянне на работнікаў музея. У Полацку ксёндз Я. Скенчак арганізаваў мітынг перад гарадскім Саветам з патрабаваннем перадаць Сафійскі сабор католікам, хаця яны ніякіх адносін да гэтага храма не маюць.

*- Які ж усё-такі касцёл на Беларусі?*

- Нярэдка даводзіцца чуць, што польскі. Вядома, калі меркаваць па складу свяшчэнаслужыцеляў, мове богаслужэнняў, то гэта так. Але калі меркаваць па складу веруючых, то карціна іншая. У заходнім друку называлася лічба - да 2,5 мільёна католікаў на Беларусі, гэта значыць 25 працэнтаў насельніцтва. Паводле перапісу 1989 года, на Беларусі пражывае 418 тысяч палякаў. Калі ўлічыць, што ў гэтай колькасці не менш чвэрці дзяцей, якія яшчэ не могуць вызначацца ў сваіх адносінах да рэлігіі, а таксама нейкая частка няверуючых, то нават пры ўмове, што ўсе астатнія спавядаюць каталіцызм, іх будзе не больш, чым католікаў-беларусаў, людзей іншых нацыянальнасцей. Акрамя таго, рымска-каталіцкі касцёл, як і іншыя хрысціянскія рэлігіі, не дзеліць веруючых па нацыянальных прыкметах. Таму сцвярджаць, што на Беларусі польскі касцёл і таму павінны служыць польскія ксяндзы, з усіх пунктаў гледжання няправільна. Такое меркаванне Савета па справах рэлігій.

*- Вядома, што ў Гродне ўжо трэці год працуе каталіцкая вышэйшая духоўная семінарыя. Але выпуск яшчэ не хутка. Якое ж выйсце?*

- Мы прапаноўвалі каталіцкім епіскапам звярнуцца ў Ватыкан, каб ён вырашыў гэтую праблему, прысланы ксяндзоў на часовае служэнне з іншых краін па папярэдняй дамоўленасці з урадам Беларусі. Але час ідзе, а каталіцкая іерархія гэтае пытанне не вырашаюць. Відаць, яны самі не вельмі зацікаўлены ў гэтым. /.../

*/"Голас Радзімы", н-р 47 ад 19 лістапада 1992 г./*

# ЦАРКОЎНАЯ АРХІТЭКТУРА XIX СТ. — НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ СТЫЛІ

*Працяг са стар. 1*

класіцызм (напрыклад, сабор св. Мікалая ў Беластоку, цэрквы ў Заблудаве, Саколцы, Наройках). Аб перамене стылю можна гаварыць з сямідзесятых гадоў. Тады паявіўся сапраўдны „русскій стыль", які аднак мае зусім іншыя гістарычныя карані, а менавіта ў драўлянай архітэктуры Расіі пасляніканаўскага перыяду (XVII—XVIII ст.).

Працэс станаўлення архітэктуры, якая стала ўзорам для расійскага стылю II паловы XIX ст. можна разглядаць на прыкладзе Васкрасенскай царквы (1776 г.) са скансена ў Суздалі (здымак 2). Як вядома, найстарэйшыя драўляныя цэрквы Кіеўскай Русі (г. зв. клецщевыя) мелі падоўжна-восевую кампазіцыю з трох зрубаў — прытвора (бабінца), нефа і алтарнай часткі, накрытых двухсхільнымі дахамі „на свалоках". У II палове XVII ст., пасля далучэння Кіева і задняпроўскай Украіны, Расія перажыла перыяд г. зв. „южно-русского влияния", уплыву ўкраінскага барока. Ад пачатку XVIII ст. цар Пётр I шырока адкрыў Расію на заходнееўрапейскія ўплывы, карыстаючыся ў вялікіх маштабах архітэктарамі і рамеснікамі з захаду. Як усе стылёвыя і тэхналагічныя перамены прысвоіла сабе народная драўляная архітэктура, відаць на прыкладзе царквы на здымку 2. Яна захавала падоўжна-восевую кампазіцыю, трохзрубавую, з бабінцам, нефам і алтарнай часткай, яшчэ дадаткова прадоўжанай на чацвёрты зруб вежызваніцы, пастаўленай, як у касцёлах, на восі храма. Бабінец і алтарная частка знаходзіліся пад традыцыйнымі двухсхільнымі дахамі. Дакладна цэнтральнай стала форма нефа — у гэтым выпадку на квадратнай ніжняй частцы пастаўлены быў васьмігранны барабан,



накрыты „шатровым" дахам, звенчаным цыбулепадобным купалам. Падобная і вертыкальная кампазіцыя званіцы. На здымку відаць асабліва тэхнічнай натуры: царква пабудавана двумя цяслярскімі тэхналогіямі, традыцыйнай расійскай і заходняй. Прытвор і ніжняя частка нефа зрубленыя з неапрацаваных „круглякоў" са зрубам „на аблап з астаткамі", як і ў клецщевых цэрквах. Верхняя, васьмігранная частка нефа і званіца пабудаваны з прамавугольных бэлек са зрубам „на замак", а шатровыя дахі хаваюць каркасную (шкілетавую) канструкцыю. Парадаксальна, можна сказаць, што ва ўзнікненні стылю, названага пазней расійскім, памагло распаўсюджанне ў Расіі заходнееўрапейскай будаўнічай тэхнікі.

Сапраўдны „расійскі стыль", які стаў паўсюдным канонам пасля 1870 г. паўтараў кампазіцыю вышэй апісанай царквы як у драўлянай, так і ў мураванай тэхніцы. Найчасцей неф мае кубічную форму з перакрыццем чатырохсхільным дахам з адным або пяццю невялікімі купаламі. Бываюць таксама нефы васьмігранныя (Нарва, Новая Воля). Цэркваў у гэтым стылі з апошняга трыццацігоддзя XIX ст., мураваных і драўляных, маем у нашым рэгіёне аднosна многа.

Апошняя фаза развіцця царкоўнай архітэктуры гэта пералом XIX і XX стагоддзяў. На Беласточчыне наглядаецца адсутнасць аднаго, накінутага зверху, узору. Маем тут прыклады наследавання і старарускіх цэркваў (напр. Васількаў) і цэркваў Канстанцінопаля (Белавежа) і нават раннехрысціянскую трохнефавую базіліку ў Ружанастоку. Былі таксама цэрквы, для якіх нельга знайсці канкрэтныя гістарычныя ўзоры, яны — твор фантазіі архітэктара, які толькі карыстаўся інспірацыяй розных эпох і стыляў. Тут прыкладам могуць быць дзве падоўжныя вайсковыя цэрквы ў Беластоку (сённяшнія касцёлы на Новым Месце і пры вакзале Беласток-Фабрычны). Ацэнка мастацкіх эфектаў гэтага перыяду неадназначная. З аднаго боку можна яго хваліць за найбольшую творчую свабоду, з другога — найбольш тады паўстала цэркваў, да якіх прыстае слова „эклектыка". Мастацкую вартасць эклектычнай архітэктуры ацэньваюць па-рознаму. Трэба аднак разумець і гэта, што адмоўныя ацэнкі часта маюць палітычна-прапагандысцкія мэты. Яны падыктаваны ці то нацыяналізмам, што асабліва яскрава відаць у польскіх распрацоўках (на жаль, здараецца і ў беларускіх), ці то наадварот — „інтэрнацыяналізмам" у аўтараў марксісцкай плыні, якія прынцыпова адкідалі і веру, і Царкву.



На канец крыху аб украінскім нацыянальным стылі на пераломе стагоддзяў. Для Украіны характэрныя падоўжныя цэрквы без званіцы з трыма купаламі пастаўленымі ў рад, над бабінцам, нефам (вышэйшы за астатнія) і алтаром. Такія цэрквы з пачатку XX ст. можна спаткаць у паўднёвай Польшчы, мураваныя, як у Шляхтовай Рускай, ці драўляныя, напрыклад, у лэмкаўскай вёсцы Бортнэ. Аднак узорам для ўкраінскага нацыянальнага стылю сталі цэрквы гуцулаў, горцаў з Усходніх Карпатаў. Прыкладам можа быць царква ў Гашове ў Бяшчадах (рыс. 3). Гэта цэнтральны крыжова-купалавы храм на плане грэчаскага крыжа, з прадоўжаным заходнім бокам. У цэнтры на васьмігранным барабане вялікі купал з псеўдаліхтаром, у форме выпрацаванай украінскім барока XVII ст.,і чатыры маленькія купалкі навокал. Выкананне тыповае для народнага драўлянага будаўніцтва Карпатаў. Часам непадалёк ад царквы ставілі аддзельную званіцу, як у Гладышаве.

У XIX ст. не паўстаў у царкоўнай архітэктуры стыль, які можна б назваць нацыянальным беларускім. Ці аднак такога стылю ніколі не было? Калі прымем, што прыкметай нацыянальнага стылю ў архітэктуры з'яўляецца яе тыповасць, паўтаральнасць на абшары пражывання аднаго народа і адметнасць ад формы архітэктуры ў іншых краінах, то ў беларусаў такі нацыянальны стыль існаваў, прынамсі ад XVI да пачатку XIX ст. Гэта драўляныя падоўжныя трохзрубавыя цэрквы, пакрытыя двухсхільнымі дахамі, такія як былі ў Грабарцы і Чыжах, якія ёсць у Пяценцы, Тапалянах, Бельску, Ляўкове, Вялікіх Тыневічах, Козліках, Паўлах, Новай Волі і іншых нашых вёсках. Мы таксама маем свой архітэктурны „нацыянальны стыль", толькі нічога аб ім не ведаем.

**ВІКТАР АЛЕКСЯЮК**

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

**BIBLIOGRAFIA**
**dotycząca ks. Jerzego Szurbaka dyrygenta Zespołu Muzyki Cerkiewnej przy Warszawskiej Operze Kameralnej w Warszawie**

*Працяг; пачатак у 50-м нумары.*


/ab/: Wyśpiewane owacje. To już 15 lat Zespołu Muzyki Cerkiewnej. - *Kurier Polski* 18.02.1987 r. nr 34, il.

MK: Z muzyką cerkiewną przez świat. - *Express Wieczorny* 26.03.1987 r. nr 60, il.

/rp/: Zespół Muzyki Cerkiewnej i włoski pianista na 229 Koncercie Poznańskim. - *Gazeta Poznańska* 3-5.04.1987 r. s. 5.

/rp/: Weekend z muzyką. - *Gazeta Poznańska* /Express Poznański/ 6.04.1987 r. s. 6.

Stradczuk Alicja: Dni Muzyki Cerkiewnej w Hajnówce. - *Ruch Muzyczny* 10.07.1987 r. nr 15.

Wątróbski Leszek: Jubileusz Zespołu Muzyki Cerkiewnej. - *Hejnał Mariacki* 1988 nr 1, il.

/w/: Wieczory muzyki cerkiewnej. - *Głos Wielkopolski* 26-27.11.1988 r. s. 12.

/Wład/: Muzyka Cerkiewna w Poznaniu. - *Ilustrowany Kurier Polski* 13.12.1988 r. nr 289/13285/

Gurda Milena: Pieśń, która jest modlitwą... . - *Petro Echo, Płock* 10-16.01.1989 r. nr 2, il.

Macievič B.: Teplom spovneni koncerty. - *Naše Slovo* 26.03.1989 r. nr 13/1654/ s. 4, il.

**Wywiady**

Szurbak Jerzy, ks.: Muzyka Bortniańskiego i Czajkowskiego w wykonaniu chóru cerkwi św. Jana /w Warszawie/. Rozm. przepr. Zuzanna Czajkowska. - *Słowo Powszechne* 1974 r.

- O muzyce cerkiewnej. Rozm. przepr. Marek Cybart. - *Słowo Powszechne* 3.08.1976 r.

- W kręgu cerkiewnej muzyki. Rozm. przepr. Tadeusz Wyszomirski. - *Myśl Społeczna* 13.03.1977 r. nr 12/638/, il.

- Ten śpiew, to przejmująca modlitwa. - *Słowo Powszechne* 24.12.1983 r., foto.

- Bliski jest nam duch ekumenizmu. Rozm. przepr. Renata Popkowicz-Tajchert. - *Słowo Powszechne* 16.01.1985 r. nr 12/1184/ s. 3-4, il.; Polem. Korczak-Michalewski Serafin: W sprawie wywiadu z ks. Jerzym Szurbakiem. - *Słowo Powszechne* 22.03.1985 r. nr 59/11531/ s. 5.

- O tajemnicy muzyki cerkiewnej. Rozm. przepr. IBIS. - *Życie Warszawy* 10-11.05.1986 r. nr 109 s. 9, il.

- Śpiew jest odpowiednikiem ikony. Rozm. przepr. Krzysztof Pasikowski. - *Odgłosy* 28.03.1987 r. nr 13 s. 9.

- Potrafi przemówić do każdego... Z okazji jubileuszu Warszawskiego Zespołu Muzyki Cerkiewnej rozm. przepr. Leszek Wątróbski. - *Myśl Społeczna* 16.08.1987 r. nr 33 s. 4, il.

- Będę stukać aż otworzą. Rozm. przepr. Olga Pacewicz. - *Gazeta Współczesna* 1-2.06.1988 r.

- O muzyce brzmiącej jak symfonia. Rozm. przepr. Janusz Kania. - *Echo Dnia*, Kielce 10.02.1989 r. nr 30 s. 4, il., foto.


**P.C.**

# ГОРАД КЛЯШЧЭЛІ

*(пачатак у папярэднім нумары)*

### II. „И РОСКАЗУЕМ ТАМ МЕСТО САДИТИ..."

З першай часткі нарыса ведаем, што ў XVI ст. на месцы Кляшчэль існаваў вялікакняжацкі двор. Тут бывалі вялікія літоўскія князі, можа і сам Ягайла затрымліваўся тут на дарозе з Гародні ў Бярэсце. У XV ст. у выніку вырубкі Бельскай пушчы пачынаецца паступовае засяленне наваколля кляшчэлеўскага двара.

Каля 1506 г. кароль Жыгімонт I загадвае Віленскаму ваяводу Мікалаю Мікалаевічу Радзівілу: „*место на нас садити у Клещележехъ на земли бельского повету*". Радзівіл, выканаўшы жаданне караля, пачаў прымаць новых пасяленцаў, якім пачаткова даў пэўныя ільготы. Таму ў хуткім часе шмат людзей прыбыло тут ладзіць новае жыццё. Але сталася так, што „*пан воевода прывернул их был к пашы дворной клещелезской* (абавязаў працаваць на дворскай зямлі — аўт.) *и для того дей людей немало з места проч ся было розышло*" (з „Прывілегіі" на хелмінскае права 1523 г.).

Пасля смерці М. Радзівіла (1522 г.) справай Кляшчэль заняўся ізноў сам кароль Жыгімонт. Ён лічыў шкодным для агульных інтарэсаў дзяржавы тое, што сталася з Кляшчэлямі. 22 сакавіка 1523 года ў Кракаве кароль дае прывілею на заснаванне тут горада на хелмінскіх правах. Новую місію арганізаваць горад даручае ён віленскаму ваяводу, бельскаму старасту Альбрэхту Мартынавічу Гаштольду: „*(...) Пан Воевода з расказания нашего, хотячи тое место нашо Клещелезы розмерити ку пожитку нашому господарскому, далъ им право хелминское, по которому праву они маютъ ся справовати и радити (...)*".

Хелмінскае права стварала даволі добрыя ўмовы для развіцця горада. Новыя насельнікі атрымалі адміністрацыйную незалежнасць ад двара; былі абавязаны плаціць арэнду ды невялікі падатак у „гаспадарскі" (каралеўскі) скарб. Былі і выняткі ў гэтым плане: „*(...) которыеьбы до того места пришли люде вольные, а хотели бы садитися в том месте клещелезским на сиром корени, а не на порублях, тым далъ его милость пан воевода волю на десять год од чиншу, що з волоки идеть по пулъ копы грошей, а по бэчце овса (...)*".

Паводле прывілеі ў Кляшчэлях мелі выбіраць двух бурмістраў: аднаго для двара, другога для горада: "*(...) и каждого году маютъ бурмистры обераны быти, такъ з двора, яко и з места ведлугъ права хелминского (...)*". Кляшчэлеўскі двор не меў права ўмешвацца ў гарадскія справы: „*(...) И теж дворъ наш их не маетъ и судити и радити, назли маетъ восполек з бурмистры и радцы, ведле права хелминского, которое им пан воевода его милость далъ (...)*".

Так ліберальныя правы давалі гораду шанц на ўсебаковае эканамічна-гаспадарчае развіццё. Нездарма ў 1576 г. было тут ужо 385 ападткаваных дамоў.

У 1533 г. Кляшчэлі пераходзяць на асабістую ўласнасць каралевы Боны, якая была вельмі зацікаўлена гаспадарчым развіццём горада. Адначасова процідзейнічае яна ўзмацненню Праваслаўнай царквы, заснаваўшы тут у 1544 г. рымска-каталіцкі касцёл (хаця праваслаўныя складалі амаль 100% насельніцтва) і надзяліўшы яго трымя валокамі зямлі.

Пра Кляшчэлі часоў каралевы Боны і іх развіццё ў XVI ст. чытайце ў наступнай частцы нарыса.

**Р. С. і М. С.**

# ПРАВАСЛАЎНЫЯ КАЛЯДКІ

"Kolędy prawosławne" - так называецца апошняя касета беларускага калектыву "Маланка" з Бельскага дома культуры, якая на днях паступіла ў продаж. Запісана на ёй дванаццаць калядак у музычнай апрацоўцы мастацкага кіраўніка калектыву Сяргея Лукашука. Сярод іх знаходзяцца шырокавядомыя "Скиния златая", "Нова радость стала", "Я умом ходила" і іншыя.

Касета з калядкамі з'явілася на рынку якраз у час і разыходзіцца з маланкавай хуткасцю. У Беластоку можна яе яшчэ купіць у ГП БГКТ і ў нашай рэдакцыі.

У Бельску касеты прадаюцца ў БДК, у школе № 3 і ў беларускім ліцэі.

**/л/**

# ПАГЛЫНЕ НАС СМЕЦЦЕ?

Размова з **інж. Барыславам Рудкоўскім**, кіраўніком Раённай групы Стражы аховы прыроды ў Бельску-Падляшскім.

— *Спадар Рудкоўскі, дзейнічаючы ў САП ад 1978 г. Вы напэўна добра пазналі ўсё тое, што пагражае натуральнаму асяроддзю ў раёне Бельска-Падляшскага.*

—А як жа магло б быць інакш? Пагрозаў ёсць шмат, але мяне асабіста ўжо шмат гадоў найбольш нервуе засмечванне глебы living рознымі адходамі. Гэта няшчасце, якому трэба як найхутчэй даць рашучы адпор. У нашым раёне засмечваюцца абочыны дарог, лясныя тэрыторыі, лугі. Трэба неадкладна апрацаваць метад утылізацыі адходаў, арганізаваць перасовачную скупку бутэлек, шкла і ўсяго таго, што даецца паўторна перарабіць. Не магу спакойна глядзець, як, напрыклад, марнуецца цэнны метал, з якога зроблена кансервная банка.

— *Ведаю, што асабліва цікавіцеся станам камавых узгоркаў.*

— Сапраўды, гэта так! Іх паволі раскопваюць. Знішчаюцца пры гэтым гнёзды берагавых ластавак, якія там селяцца. Навесну 1982 г., у рэзультаце эксплуатацыі жвіроўні, якая знаходзіцца ў трохвугольніку Бельск-Падляшскі — Аўгустова — Арэхвічы, здарыўся восып, які знішчыў сотні гнёздаў. Ластаўкі „выселены” таксама з камы Чэрнякова гара ў вёсцы Праневічы. Апошняе месца, дзе яны яшчэ зберагліся, гэта кама ў Гацьках. Трэба было б неабходна забяспечыць яе, капаючы канаву і ставячы інфармацыйную дошку. Тое самае трэба было б зрабіць у Белай і Катлах.

— *А ў якой сітуацыі бельскія рэчкі?*

— Дзякуючы ліквідацыі льнозавода напэўна крыху перадыхнула рака Любка, але надалей яе забруджвае бойня ПССу. У сваю чаргу рэчку Сэрэд атручвае малачарня (ачышчальня, якая там знаходзіцца, затрымоўвае толькі арганічныя асадкі). Абедзве рэчкі з'яўляюцца прытокамі Белай. У рэзультаце ў нашых рэчках не бачыцца прыкметных сімптомаў біялагічнага жыцця. Назіраю таксама трывожнае паніжэнне падзямельных водаў, выкліканае меліярацыяй і прамысловасцю.

— *Напэўна даюцца ў знакі і забруджанні паветра.*

— Хопіць сказаць, што нашыя кацельні выпускаюць у атмасферу каля 100 тон пылу і 600 тон газу ў год. Сканцэнтраванасць двухвокісу серы ля глебы перавышае ў чатыры разы дапушчальную норму. Зрэшты, пра гэтыя справы шырэй пісаў нядаўна ў „Ніве” Юрка Баена.

— *Мне вядома, што час ад часу пасылаеце уладам, мясцовым ды ваяводскім, трывожныя лісты. Даюць яны нейкі рэзультат?*

— Практычна ніякі! Не „марочыў” я яшчэ галаву нашым новым гарадскім уладам, але спадзяюся, што сапраўдны стан асяроддзя ім добра вядомы.

— *Вышукоўваеце Вы таксама прыродныя аб'екты, вартыя захавання. Большасць з іх ужо прызнана помнікамі прыроды..*

— Так, мне ўдалося абняць юрыдычнай аховай 78 дрэў — галоўным чынам вязаў, дубоў і ліп, а таксама паасобных бярозаў і соснаў. Растуць яны не толькі ў Бельску і ваколіцы, але і на Гайнаўшчыне, і ў былым Сямяціцкім павеце. На сваім „рахунку” маю таксама дубовую алею ўздоўж дарогі Сямяцічы — Дзядковіцы. На ахову заслугоўвае яшчэ наймеш сотня паасобных дрэў. Для ўсіх помнікаў прыроды я выканаў тапаграфічную дакументацыю. З прыкрасцю мушу сказаць, што ў сваю чаргу маю цяжкасці, каб дабіцца прызнання помнікамі прыроды валуноў, якія знаходзяцца ў Зубаве, Белавежы, Пограбах і ваколіцы Бранска.

— *Захоўваеце не толькі помнікі прыроды, але і ратуеце ад забыцця назвы ўрочышчаў, рэчак і іншых геаграфічных аб'ектаў, наносячы іх на карты, якія самі выконваеце. Якія ваколіцы Вы ўжо разведалі, а якія чакаюць вашых доследаў?*

— Распрацаваў я дагэтуль Аўгустова (Ягуштова), Бельск-Падляшскі, Гацькі, Праневічы, Грыневічы-Вялікія, Катлы, Відава, Дабраміль, Казлы, Райкі, Дубяжын, Кошкі, Тапчыкалы, Орлю, Шчыты, Крывую, Крывяцічы, Мора, Рыбалы, Кленікі. У найбліжэйшы час хачу заняцца Паўламі і Войшкамі.

— *Вы таксама вядомы як аўтар тапаграфічных распрацовак праваслаўных сакральных аб'ектаў.*

— Я дагэтуль выканаў карты 32 храмаў, уключаючы і іх наваколле. Пахвалюся, што за гэтую працу Святы сінод епіскапаў Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы прысвоіў мне Ордэн Святой роўнаапостальнай Мар'і Магдаліны II ступені. Яго ўручылі мне падчас урачыстасці пасвячэння капліцы ў Баравісках у жніўні 1992 г.

— *Мне вядома, што ўзнагародзілі Вас і за заслугі на ніве аховы прыроды.*

— У 1985 г. я атрымаў Залатую ганаровую адзнаку Лігі аховы прыроды, чатыры гады пазней Сярэбраную адзнаку „За заслугі для аховы асяроддзя і воднай гаспадаркі”. Пяць гадоў таму назад прышпілі мне Залатую адзнаку „За ахову помнікаў старадаўнасці”.

— *Закончым мо нашу размову пералікам тых асоб, якія Вам найбольш дапамагаюць у Вашай ахоўніцкай працы.*

— З найвялікшай прыемнасцю! Залічваю да іх Яна Кшыжака, Андрэя Гаўрылюка, які зараз жыве ў Ольштыне, Дарафея Фёніка, Альжбету Бэзюк, Уладзіміра Шарко. Карыстаючыся нагодай хачу ўсім ім сардэчна падзякаваць.



**Размаўляў ПЁТР БАЙКО**
**Фота Андрэя Гаўрылюка**

# З ГІСТОРЫІ ШКОЛЬНІЦТВА Ў ОРЛІ

Вучыць дзяцей пісаць і чытаць у мястэчку Орля пачалі ўжо ў васьмідзесятыя гады мінулага стагоддзя. У адным з артыкулаў а. Рыгора Сасны знайшоў я такую інфармацыю: "W okresie rozwoju szkolnictwa cerkiewno-parafialnego, w październiku 1884 r. na terenie parafii otwarto szkoły oświatowe (gramoty). Nie miały one własnych pomieszczeń i były to tzw. "podwiżnyje" szkoły. W 1886/1887 r. istniały szkoły we wsiach: Szernie, gdzie uczyło się 16 chłopców i 4 dziewczynki; Rudołty - 23 chłopców, Topczykały - 21 chłopców i 7 dziewczynek, Paszkowszczyzna 14 chłopców i 4 dziewczynki. W parafii orlańskiej było jedno "narodnoje uczyliszcze" - (171 uczniów) i 7 szkół jednoklasowych (146 uczniów)".

З успамінаў старэйшых людзей я даведаўся, што навучанне ў гэтых аднакласных школах адбывалася ў дамах бацькоў. Хлопцаў вучылі пісаць, чытаць і рахаваць, дзяўчат - толькі чытаць. Першы школьны будынак у Орлі паставілі ў 1863 г. і каб было смешна - заняткі ў ім адбываюцца па сённяшні дзень. Другі будынак пабудавалі ў 1910 г. і ў ім таксама сёння вядуцца заняткі.

На пачатку XX стагоддзя існавалі ўжо пяцігадовыя школы, а ўзровень навучання ў іх можна смела параўнаць да сучасных васмігадовых. Багацейшыя арлянцы далей вучыцца маглі ўжо ісці ў гімназію.

У II Рэчыпаспалітай школа стала абавязковай для ўсіх дзяцей. У Орлі была сямікласная і хадзілі да яе пасля заканчэння чацвёртага класа вучні з такіх мясцовасцей, як Пашкоўшчына, Маліннікі, Шчыты, Крывая, Дубічы-Царкоўныя, Махнатае, Старакорнін.

У 1935 г. у арлянскай школе вучылася 450 вучняў, у тым ліку 225 майсеявага веравызнання. 7 вучняў у гэтым жа годзе закончыла сёмы клас. Навучанне ў арлянскай школе, як і ў цэлай Беласточчыне, вялося на польскай мове. Яўрэйскія дзеці хадзілі яшчэ і ў сваю школку, "хедэр", дзе вучыліся рэлігіі і свае мовы.

У гадах 1939-1941 існавала тут савецкая школа, у якой упершыню, апрача дзяржаўнай - гэтым разам расейскай, навучанне вялося таксама на беларускай мове. Школа разраслася - было ўжо тады 640 вучняў, 16 класаў і 18 настаўнікаў.

У час нямецкай акупацыі школа ў Орлі існавала далей і змянілася толькі навучанне чужой мовы - з расейскай на нямецкую. Беларуская асталася як асноўная ў навучанні ўсіх прадметаў.

Таксама было і першы год пасля вайны, калі дадатковым прадметам была польская мова. Але ўжо ў 1945 годзе ўсё змянілася. Усе прадметы пачалі навучаць на польскай, а беларуская лічылася дадатковым прадметам. Пасля было ўсяляк. Беларуская мова раз была, раз яе не было.

Толькі на працягу першых 30-ці гадоў пасля вайны 40 выпускнікоў арлянскай школы здабылі вышэйшую адукацыю. Вельмі мала дзяцей канчала навуку толькі з атэстатам гэтай школы.

**МІКАЛАЙ ЛЯШЧЫНСКІ**

## ЗУБР-ГАРЭЗА

Жыхары Белавежы пачалі ўжо забываць пра зуброў, якія раней выходзілі на Белавежскую паляну і наносілі розныя шкоды, пужалі людзей. І вось нядаўна напомніў аб іх існаванню адзін самец, які некалькі тыдняў гарэзнічаў у ваколіцах Падалян і Заставы (з боку вул. Вольгі Габец). А то адным пааб'ядаў фруктавыя дрэўцы, другім разваліў плот, іншым параскідаў падрыхтаваныя на зіму дровы. Але найбольш страху наеўся адзін жыхар, які пайшоў з сабакай напужаць нахабніка. Зубр падняў смяльчака ўверх. Усё ж такі шчасліва склалася, што той трапіў зубру паміж рогі і толькі пераехаўся на ягоным хрыбце, і ўпаў з-заду звяра.

Уласнік зубрынага статка ў Белавежскай пушчы, значыць Белавежскі нацыянальны парк, вырашыў наканец вызваліць белавежцаў ад гарэзы. Зубра застрэлілі, а яго мяса трапіла ў рэстаран „Іва”. Не чуваць было, каб зубрыная гарэзлівасць перанеслася на турыстаў, якія частаваліся смажанінай з зубра. Але на ўсялякі выпадак, калі сустрэнеце недзе нейкага гарэзніка, запытайце ў яго, ці не еў ён часам зубрынага мяса ў Белавежы.

**ПЁТР БАЙКО**

## УЗНІКЛА "ДУМКА"

Падчас сустрэчы ў рэдакцыі "Нівы" ў пачатку лістапада Яўген Мірановіч заахвочваў нас - вучняў Гайнаўскага беларускага ліцэя - падтрымоўваць кантакты з журналістамі і пісаць карэспандэнцыі ў газету. У сувязі з гэтым дазваляю сабе паінфармаваць рэдакцыю і чытачоў аб узнікненні ў нашай школе дыскусійнага клуба моладзі "Думка".

Чалавекам, які запрапанаваў формулу клуба і прычыніўся да яго ўзнікнення з'яўляецца настаўнік гісторыі, прафесар Яўген Вапа. Арганізацыйны сход клуба адбыўся 18 лістапада г.г. Членамі заснавальнікамі, апрача прафесара Я. Вапы, з'яўляюцца наступныя вучні: Яанна Кур'яновіч, Яанна Ціванюк, Уршуля Ваўрашук, Агнешка Станько - скарбнік, Альжбета Янцэвіч, Адрыян Раманюк - старшыня клуба, Тамаш Хіліманюк і Андрэй Мусько.

У апрацаваным, з дапамогаю прафесара Я. Вапы, статуце запісаныя мэты нашай дзейнасці:

1. Дыскусія аб праблемах маладзёжнага асяроддзя ў акружаючай грамадска-палітычнай і культурнай рэчаіснасці ў кантэксце спецыфікі беларускай школы;
2. ДКМ хоча прадстаўляць свае погляды і прапановы адносна ўсіх спраў звязаных з унутраным жыццём школы;
3. ДКМ будзе імкнуцца да пашырання сярод моладзі талерантнасці - рэлігійнай, да іншага светапогляду, іншых народаў і сексуальных меншасцяў.

Статут і планы дзейнасці заснавальнікі клуба прадставілі дырэктару ліцэя Яўгену Сачко. Дырэктар адобрыў нашу ініцыятыву. Мы ў сваю чаргу паабяцалі падтрымліваць цесную сувязь з дырэкцыяй школы.

Думаем, што нашай дзейнасцю будзем пашыраць кругагляд беларускай моладзі - пазнаваць дагэтуль неспазнанае, уведаць нязведанае. Ажыццяўляць задуму намерваемся шляхам арганізавання культурных мерапрыемстваў і сустрэч з цікавымі людзмі.

Мы будзем старацца, не гледзячы на стан, у якім сёння апынулася моладзь, узбудзіць усіх нас да дзейнасці.

**АЛЬЖБЕТА ЯНЦЭВІЧ**



МІРА ЛУКША

* * *

Тата, сыпецца снег.
Не на тваю шапку-аблавушку,
не на тваe нессівелыя валасы,
не на цвёрдыя рукі,
што не ўмелі песціць дзяцей.

Тата, дожджык ідзе ад Баб'яй Гары,
па лонках, па бярэзінцы, па грэблі...
Па шыбе коціцца, плача.
А ў печы, у сцяноўцы, агонь гудзе,
з бярозавых пален сцякае сок.

Тата, шэрань на яблыньках.
На яблыньках ружовыя кветкі.
Румяныя яблыкі падаюць на траву.
Давай, пойдзем у садок, пазбіраем.

* * *

Цікава,
хто ж сёння
завязаў белы бінт
на вачах
Справядлівасці?

...але гэта ж яе...
асляпілі?!
Але ж, пэўна,
не тыя,
хто верыць
у беспамылковасць
такое пастаці!

НІНА МАЦЯШ

НЕ ВЕДАЮ

Не ведаю, адкуль прыйшла.
Не ведаю, куды пайду.
Не ведаю, чаму аж так
Я мушу спазнаваць бяду.

Няма так шмат з маіх сяброў.
Так шмат з радні маёй няма.
Дзе вы, матуля, сёстры, брат?
Хоць знак які падай мне, ма!..

Не ведаю, адкуль прыйшла.
Не ведаю, пайду куды.
Не ведаю, нашто цвітуць
Мае цярновыя сады.

Як б'ецца сэрца, родны мой!
Ці хопіць нашага святла,
Каб і на сцежцы незямной
Нам стрэча дадзена была?

У ПАВАДЗІ НЕДАБРАТЫ

Не трэба, мой дружа, не будзем.
А прыкра і гаварыць
Пра ковы, пра чад нашых будняў,
Як свет гэты белы, стары.

На макаўцы тлуму і стрэсу
Не ўшчэнт абяскрылены мы.
Пад клічы гусінай сурмы
Выпырхвае лісцейка бэзу.

На градцы на мамінай крокус
Ліе незямное святло,
І ластаўка ладзіць жытло
Пад радыяцыйнаю кроквай...

Свет белы не вычарпаў лекаў.
І ў павадзі недабраты
Хоць зрэдзь чалавек чалавеку
Ёсць ласка жыцця.
Як мне - ты.

## "ДАЙНОВА" - ФУНДАТАР БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Некалькі тыдняў увагу жыхароў Беларусі прыцягвалі артыкулы пра гісторыю і сучаснае становішча "беларускай" Беласточчыны, якія друкаваліся ў вядучых газетах Беларусі. Гэта ішла гуманітарная акцыя Польшча Б, якую праводзіла агенцтва РІД газеты "Знамя юности".

Думка пра цыкл такіх матэрыялаў прыйшла да карэспандэнтаў, але ажыццявіць яе пры цяжкім становішчы друкаваных выданняў было цяжка. Таму карэспандэнты звярнуліся за фінансавай дапамогай да бізнесменаў. Шмат каго пыталі, прасілі, але адказ быў адзін - няма грошай.

Толькі адна з менскіх суполак падыйшла да гэтай справы з увагай. Гэта суполка "Дайнова". Яна першая і бадай адзіная, якая пачала друкаваць свае рэкламныя матэрыялы ў газетах на беларускай мове. "Дайнова" выступала фундатарам некалькіх канцэртаў беларускіх рок-гуртоў "Уліс", "Мроя". Заўсёды віншуе праз газеты менчукоў з Калядамі, Дзядамі, Днём незалежнасці.

Гэтыя ініцыятывы ідуць ад прэзідэнта суполкі **Адама Палюховіча**, які добра разумее, што шанцаў "выплыць" на энтузіязме некалькіх чалавек беларуская культура зараз не мае.

"Сродкі патрэбны на адраджэнне немалыя, але меншыя, чым тыя, якія цяпер пускаюць на камерцыйную рэкламу", - кажа Адам у пачатку нашай размовы.

*- Адам, ці ёсць нейкія матывы ў вашай фірмы, калі яна фундзіруе нейкі канцэрт ці культурную ініцыятыву?*

- Фірма, якая накіроўвае сродкі на культуру, на выхаванне моладзі, робіць гэта са свайго прыбытку. Ніякіх падатковых льготаў мы з гэтага не маем і грошай гэта не прыносіць. Таму, каб некаму дапамагаць, трэба самому лепш працаваць і вытрымліваць жорсткую канкурэнцыю з боку тых фірм, якія фундатарствам не займаюцца. "Дайнова" ж дапамагае не для "іміджу". Хутчэй гэтыя нашы добрачынныя матывы выходзяць з нашага дзяцінства і паходжання.

*- !?*

- Фірму "Дайнова" заснавалі людзі з паходжання беларусы і яны маюць карані па-за Менскам. Ні ў каго з заснавальнікаў бацькі не паходзяць з буйных гарадоў. У мяне да сённяшняга дня на памяці часы праведзеныя ў бабкі, шматлікія словы і звароты яе мовы я захаваў да сённяшняга часу і, мабыць, дзякуючы гэтаму, маю тое, што называюць нацыянальнай свядомасцю.

*- А як лічыць прэзідэнт "Дайновы" - беларус Палюховіч, ці ёсць сёння матэрыяльныя матывы, якія могуць тварыць нацыянальны бізнес?*

- Толькі ідэальных матываў я думаю, не можа быць. Павінна быць дзяржаўная падтрымка, дзяржаўная праграма, хоць яна сама па сабе нічога не зробіць без агульнага адраджэння нацыянальнага пачуцця. Але я аптыміст, думаю, што ў людзей захавалася гістарычная памяць і я перакананы, што праз пару дзесяцігоддзяў будзе такая сітуацыя сярод бізнесменаў, калі большасць будзе адчуваць сябе беларусамі і размаўляць па-беларуску. Хоць страчана нейкая частка нацыянальных здабыткаў, але не ўсё згублена.

"Дайнова" верная сваім імкненням. Акрамя фундатарства гуманітарнай акцыі Польшча Б, яна, празнаўшы пра цяжкае становішча беларускіх школ, ужо тройчы раз перадае праз карэспандэнтаў беларускія кнігі і сучасныя падручнікі беларускай мовы.

<u>Ян Чыквін — лаўрэатам узнагароды Ваяводы</u>

## ЛАЎРЫ ДЛЯ ПАЭТА

Ян Чыквін, беларускі паэт, стаў лаўрэатам узнагароды Беластоцкага ваяводы, прызнанай яму з нагоды юбілею 35-годдзя творчай працы і за актыўны ўдзел у развіцці беларускай культуры ў Польшчы.

Узнагароду прымаў паэт 15 снежня з рук беластоцкага віцэ-ваяводы Аляксандра Усакевіча, у прысутнасці Віктара Шведа — віцэ-старшыні літаб'яднання „Белавежа" і ген. Здзіслава Цыпэльта, старшыні Агульнапольскага гуртка імя Элізы Ажэшка ў Варшаве, найстарэйшай — трыццацігадовай — польскай крэсавай арганізацыі, якая прапанавала Я. Чыквіна да ўзнагароды, прызнаючы аднагачасова — як адзінаму дасюль паэту-іншамоўцу — пачэснае членства ў гэтай арганізацыі.

Ян Чыквін — аўтар некалькіх зборнікаў паэзіі: „Ідy" (Беласток 1969), „Святая студня" (Беласток 1970), „Неспакой" (Беласток 1977), „Na progu świata" (Варшава 1983), „Splot słoneczny" (Ольштын 1988), „Светлы міг" (Мінск 1989), „Кругавая чара" (Беласток 1992). Займаецца таксама перакладамі твораў польскіх сучасных паэтаў на беларускую мову. Я. Чыквін з'яўляецца старшынёй Беларускага літаб'яднання „Белавежа", стваральнікам, рэдактарам і выдаўцом Бібліятэчкі „Белавежы".

Рэдакцыя „Нівы" сардэчна віншуе Яна Чыквіна з пачэсным адзначэннем.

(Т. З.)

## КАЛІ ЦЯБЕ РАЗУМЕЮЦЬ

На сустрэчу з Тамарай Тарасевіч — мастачкай з Белавежы ішла я з прадчуваннем адкрыцця нечага новага не толькі для сябе, але і іншых.

Да знаёмства з творчасцю мастачкі я ведала, што Тамара нарадзілася 23 сакавіка 1950 года ў Гайнаўцы. У 1976 годзе скончыла медыцынскую настаўніцкую студыю ў Варшаве, а ў 1982 — факультэт медсясцёр медыцынскай акадэміі ў Вроцлаве. Маляваць пачала ў Вроцлаве пад канец 1988 года і за гэты перыяд яе творчасць складаюць 100 карцін, большасць якіх напісана на вялікіх фарматах у тэхніцы алей на палатне. Іх галоўная тэматыка — кветачныя кампазіцыі, прырода, экзотыка, кампазіцыі з дрэвамі, пейзажы.

Выстаўкі мастачкі адбыліся ў Белавежы, Гайнаўцы, Цеханоўцы, Гародні, Віцебску, Менску, яе працы знаходзяцца ў прыватных калекцыях, музеях у краі і за граніцай (у Нямеччыне, Францыі, ЗША, Беларусі). У гэтым годзе атрымала яна І узнагароду на першым аглядзе непрафесійнага мастацтва на Гайнаўскай зямлі.

Заўсёды цікава пазнаёміцца з мастаком спачатку па творчасці, а потым з Чалавекам. Таму, што паміж гэтым ляжыць сувязь, якая сярод людзей мастацтва завецца арганічнасцю.

... Вось яны, 13 карцін са 100, якія склалі выставу, творчы твар мастачкі ў малой галерэі непрафесійнага мастацтва ў Беластоку. Гэта раслінныя кампазіцыі: „Кветкі", „Ірысы", „Вяргіні", „Венерын чаравічак", „Настурцыі", „Архідэі", „Абувік", якія нагадваюць згустак мяккай энергіі, куды абавязкова хочацца заглянуць у сярэдзіну, там што там: рух, пачуцці, душа, кветкі напісаны ад халодных да цёплых таноў у насычаных колерах. Другую палову выставы — злажылі пейзажы, кампазіцыі з дрэвамі: „Зімовы пейзаж", „Пейзаж з месяцам", „Крык дрэў", „Туманы", „Ясны сон", „Зубры" — гэта мара, байка, якія б арганічна ўпісаліся як сцэнаграфія ў казачных спектаклі.

Знаёмства з Тамарай Тарасевіч адбылося там жа, на выставе. Гэта далікатная жанчына, з мілым ветлівым тварам. Але ўнутраны мір, мяккасць, адлюстраваліся ў яе творчасці. Калі я сказала сваё ўражанне аб карцінах, твар мастачкі пасвятлеў, яна падзякавала за тое, што яе правільна зразумелі. А гэта ж самае галоўнае ў жыцці, а тым больш творчым жыцці, калі цябе разумеюць.

ЛАРЫСА ДУБРОЎСКАЯ

## ФІЛАСОФІЯ НА ЛОНЕ ПРЫРОДЫ

Так можна назваць і ацаніць кніжку Янкі Целушэцкага „Імгненні", якую ён выдаў за свой кошт у 1991 годзе. Ягоныя мініяцюры прысвечаны жывой прыродзе Янкавых старон: нараўскіх берагоў, лясоў, лугоў, палёў. Не забыты ім надвор'е і поры года, свет звяроў і птушак. Ён мастак — майстар роднага слова, які з дакладнасцю жывапісца адмалёўвае некранутую чалавечай рукой прыроду. Прыгажосць расліннага свету — на ганаровым месцы ў Янкі. Ён умее нашы дзіцячыя перажыванні паказаць такімі, якімі былі ў сапраўднасці: казачнымі, як быццам з іншай планеты.

Хачу заўважыць, што рэцэнзіі на кніжкі нашых беларускіх пісьменнікаў і паэтаў з літаб'яднання „Белавежа" пішуць выключна самыя аўтары кніг (або іх падлізнікі): адзін другога да неба выхваляе. Простыя людзі іх хвальбы не чытаюць — яны ўмеюць адрозніць праўду ад фальшу. А праўды мала, віднее толькі хвальба С. Яновіча, Т. Занеўскай, Я. Чыквіна. Бяда, калі чалавек сам сябе хваліць. Да таго ж „белавежскія" рэцэнзенты ўжываюць вельмі мудрыя словы. А мы, чытачы „Нівы" з вёскі, не канчалі універсітэтаў, і для нас чужая тая штучная хвальба, і ніхто яе не чытае.

Сваю рэцэнзію пішу я як просты мужык: ад сэрца, так, як яно мне дыктуе. Захапляе мяне форма і багацце слоў твораў Янкі Целушэцкага. „Філасофія на лоне прыроды" — даступная, лёгкая і карысная: яна вучыць роднай мовы і пашаны да яе. Для мяне яна — гэта не толькі ўрок, але і энцыклапедыя. Янкавыя вершы асаблівыя, здаецца непадобныя на вершы, без рыфмы, але ёсць тут рытм і багатая экспрэсія. Цікавыя таксама і ўзятыя з жыцця апавяданні. Я проста здзіўляюся, чаму кніжку „Імгненні" Янкі Целушэцкага не выдала літаб'яднанне „Белавежа", а выдаў яе ён сам за свой кошт. Не прыносіць гэта гонару літаб'яднанню, якое за сваё існаванне выдавала ўсялякія — і добрыя і пустыя — кнігі, а вось „Імгненняў" выдаць не хацела. Затое Янка Целушэцкі, выдаўшы за свае грошы гэту вартасную кнігу, зрабіў добры, патрыятычны ўчынак.

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК

## БУДЗЕ НОВЫ АЛЬМАНАХ

Інфармуем чытачоў "Нівы" ды ўсіх прыхільнікаў прыгожага беларускага пісьменства, што - дзякуючы фінансавай ахвярнасці Беларусаў з Клўленда /ЗША/ - неўзабаве выйдзе з друку літаратурны альманах **"МАЕ ПЕСНІ ТАБЕ ДАРУ"**. У ім вы сустрэнецеся з паэзіяй і прозай новага творчага пакалення беларускай інтэлігенцыі Польшчы.

/яч/






**ЧАСТКА XXII**

Я толькі што вярнуўся з Беларусі. Сустракаўся там з рознымі людзьмі. Амаль усе беларусы-інтэлігенты ў большай ці меншай ступені разумеюць неабходнасць характару наступаючых перамен. Многія інтэлігенты пазітыўна ацэньваюць факт узнікнення незалежнай Беларусі. Хаця не ўсе з іх не разумеюць, што за незалежнасць трэба будзе заплаціць высокую цану. Зусім па-другому выглядае гэта справа сярод „простых людзей". Давялося мне праехаць каля 150 кіламетраў з рабочымі і каля 150 кіламетраў з сялянамі. Пры гэтай нагодзе наслухаўся я горкіх слоў аб пераменах, якія сёння ахопліваюць Беларусь. Па сутнасці і ў адным, і ў другім выпадку меў я дачыненне зататальнай крытыкай новага эканамічнага ладу ў краіне. Вось выказванні рабочага, якому было каля 40 гадоў:

„Я никогда не был коммунистом, и поэтому не должен коммунистов жалеть. А всё же таки я вам скажу откровенно — жалею. Жалею по существу не коммунистов, а той жизни, которая при них существовала. Да, вы думаете, что жили мы хуже, чем жили люди на западе. Но ведь надо сказать, что жрали мы и пили получше, чем на западе. Если бы мы жрали и пили меньше, то было б у нас побольше и машин, и дач, и яхт, и Бог знает чего там ещё. Если бы этот западний человек ежедневно выпивал как мы по пол литра на рыло, то, небось, они тоже были бы победнее. Ну, а что касается нас, то мы жили ведь стабильно. Работа была, квартира была, жратва была, просвещение бесплатное было, лечение бесплатное было, отдых был? Был! Всё впрочем было нормально. Ну, а возьмём сегодня. С работой стало туговато, с отдыхом тем более. Уже начинают гавкать о том, что и за лечение надо будет платить! Оплату за квартиру ежемесячно поднимают. Цены на еду растут так, что противно становится. Промтовары — тоже самое. А ведь этот дурак, Горбачёв, заверял, что цены пойдут вверх в полтора раза. А они у нас пошли вверх в тысячу раз! А зарплата на сколько увеличилась? В сто раз меньше, чем цены, ну вот и видите полностью звериный облик капитализма. Нет, нас не возьмёшь на такую демократию! Ещё посмотрим, чей верх будет! У нас ещё последнее слово не сказано. Последнее слово скажет народ! Почему правительство не спросит в референдуме народа, хочет ли он капитализма? Почему не спросит? Значит, не хотят знать правду. Вот что! В таком случае народ скажет правду сам".

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Другі мой размоўца-калгаснік, якому было каля 45-ці гадоў, таксама стараўся гаварыць па-руску. Аднак гэта яму ўдавалася толькі часткова. Рабіў ён вялікую колькасць памылак, якія я стараўся захаваць у тэксце яго выказвання:

„Всё, знаете, пайшло ўверх нагамі. Ну проста шыварат-навыварат, ейбогу. Ніяк тут не разбярэшся. Ну нету этага камунізму, то пусть уже яго не будет. Пусть ідзёт сабе з Богам. Но пусть жызнь застанется спакойная, пусть эты цэны ні ростут так по-сумасшедшему. Ну нам кажут так — камуністы всё кралі. Ну можэ ані і кралі, але ж і нам хапало. У магазінах поўно і дзешаво. Дзеньгі цану сваю імелі. Заработал, еслі хочаш, пакупай, а еслі нет, то грошы дзержы, оні не абясцэньваюцца. Мелі камуністы, але меў і просты народ. Ну а тепер, то яшчэ шуму надзелалі с этой незалежнасцю. Ну пусть будет гэта незалежнасць, а навошта цэны ў тысячу раз паднімать. А гэты з фронта то яшчэ крычат, что нам надо порывать поўнасцю з Расеяй. А мы же з ёю ад вякоў вместе былі. У нас і рэлігія такая ж, і язык пахожы. Так почему же надо з ею полностью порывать? А вы знаете, что дзелаецца в колхозах. Беда і больш нічого. Ну, яшчэ так-сяк пасеялі, а как будем собірать? Бензіна нету, саляркі нету, запчастак нету. А еслі і появітся что-нібудь, то цэны такіе, что гадко становітся. Ну а самое протівное то тое, что кругом бушуют эті жулікі, камбінатары. І нету на ніх ніякай управы, страху і наказання. Дзелают то что хатят. Грабят народ на каждом шагу. Ну і варыство пашло такое, что спасу нету. Воруют ночью, воруют днём. Нікаво не боятся. А у нас то почті что ўсё ў спекуляцыю бросілісь. Все в Польшу прут. О работе нікто і не думает всур'ёз, каждый думает как спекульнуть і прывезці із Польшчы сто ілі дзвесте доларов. Я там комунізма ў Белорусіі не дзелаў і ні я его буду ліквідіровать. Еслі уже от этае беды не выдержымо, то надо будет взять за горло этих усех, которые обагашчаюцца на нашай крові. Беда прышла і годі, хоць ты ў петлю лезь".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

---

# КОЛЬКІ БЫЛО БЕЛАРУСАЎ?

☛ *Працяг са стар. 1*

цыянальную свядомасць. "Народная улада" аднак не збіралася ствараць новыя янычарскія саюзы пад шыльдам "праваслаўных палякаў", таму на працягу сарака гадоў нічога пра іх не было чуваць.

Апрача палякаў і беларусаў пасля вайны на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства жылі яшчэ немцы, літоўцы і яўрэі. У 1947 г. у выніку акцыі "Вісла" былі перавезены сюды з Люблінскага і Жашоўскага ваяводстваў украінцы. Пасялілі іх на поўначы тадышняй Беласточчыны ў паветах Голдап, Алецка, Элк. Калі ідзе пра немцаў, у наступных гадах вывезлі іх усіх у Нямеччыну. Яўрэі жылі амаль ў двух гарадах - у Беластоку і Бельску-Падляшскім.

У кастрычніку 1944 г. ваяводскія ўлады ўпершыню спрабавалі зарэгістраваць, колькі непалякаў пражывае на тэрыторыі, якою кіравалі. У той час было гэта невыканальнае. Адміністрацыйныя структуры падпарадкаваныя люблінскім уладам толькі што фарміраваліся. Большасць старастаў і ваяводскіх урадніказ была афіцэрамі і салдатамі, адасланымі з фронту. У большасці гмінаў Бельскага, Беластоцкага і Сакольскага паветаў ураднікі акрэслілі лік беларусаў на бліжэй неакрэсленых падставах.

Выйшла, што на тэрыторыі ваяводства ў канцы 1944 г. жыло 821892 палякаў, 127363 беларусаў, 2738 літоўцаў, 421 яўрэй, 281 украінец, 783 расейцы і 5 тысяч немцаў.

У Бельскім павеце чыноўнікі рашылі аднак дакладней пазнаць нацыянальную структуру і збіралі інфармацыю да студзеня 1945 г. Аказалася, што 45 % насельніцтва павета складалі беларусы. Агулам Бельшчына налічвала 191353 жыхары, у тым ліку 105195 палякаў і 85945 беларусаў. У такіх гмінах як Орля, Нарва, Нараўка, Кляшчэлі беларусы складалі звыш 90 % насельніцтва. На ўсход ад лініі Бельск - Боцькі - Сямяцічы беларусы абсалютна дамінавалі, на захад ад яе былі ў меншасці.

Зусім несур'ёзна падыйшлі да гэтага перапісу ўлады Беластоцкага павета. Выслалі яны толькі загад войтам і бурмістрам, каб тыя прыслалі інфармацыю, колькі на іх тэрыторыі пражывае прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў. Некаторыя гмінныя ўраднікі напісалі ў адказ, што павесілі картачкі, каб беларусы і яўрэі прыйшлі зарэгістравацца /Харошча, Старасельцы/. З увагі на тое, што ніхто не прыйшоў рэгістравацца, войты напісалі, што "няма ў нас нацыянальных меншасцяў". У некаторых гмінах пісалі, што ёсць пару праваслаўных сем'яў, калі вядома было ўсім, што амаль палова жыхароў з'яўляецца вернікамі гэтай канфесіі. Бурмістр Супрасля напісаў, што ў яго гміне жыве толькі 15 беларусаў, хаця ў іншых, больш тайных дакументах пісаў, што ў самім горадзе жыве 436 чалавек гэтай нацыянальнасці. З некалькіх гмінаў увогуле не паступілі ніякія справаздачы. Усё-такі палічылі, што ў Беластоцкім павеце жыве 32327 беларусаў.

У Сакольскім павеце беларусы жылі ў 13 гмінах. Справаздачы прыйшлі толькі з 6 гмінаў і вынікала з іх, што на тэрыторыі павета жыве 8170 беларусаў. Гэта складала 8% насельніцтва.

Другі раз ваяводскія ўлады пачалі збіраць інфармацыю пра нацыянальныя меншасці восенню 1946 г. Праз два гады змянілася зусім нацыянальная палітыка народнай улады, якая прыняла дактрыну "Польшча дзяржавай аднае нацыі". З Беласточчыны выехала тады ў Савецкі Саюз 36386 беларусаў, у тым ліку з Беластоцкага павета - 12328, Бельскага - 10122, Сакольскага - 9680 чалавек.

Цяжка сказаць, чаму ў Бельску рашыліся зрабіць новы перапіс толькі ў верасні 1947 г. Выйшла так, што агульны лік беларусаў у павеце не змяніўся, нягледзячы на тое, што адтуль выехала звыш 10 тысяч чалавек. Аднак зменшылася колькасць беларусаў у гмінах заходняй часткі павета, такіх як Гродзіск, Драгічын, Бранск, Сямяцічы. У выніку дзейнасці польскіх партызанаў беларускае насельніцтва ўцякала ў савецкую Беларусь, на захад Польшчы або перамяшчалася ва ўсходнюю частку ваяводства, далей ад суседства з польскім насельніцтвам. Узрастаў у ненатуральны спосаб лік беларусаў ў такіх гмінах як Гайнаўка, Клюковічы, Орля.

У Беластоцкім павеце ў 1946 г. перапіс праводзіўся яшчэ больш нядбайна, чым два гады раней. Адна толькі прыкмета дэмаграфічнага працэсу была такая ж як у бельскім павеце - зменшыўся лік беларусаў у заходніх гмінах.

У 1946 г. у Беластоцкім павеце налічылі 25462 беларусы. З гмінаў такіх як Супрасль, Харошча, Старасельцы не прыслалі ніякіх інфармацыяй, у гміне Дайліды налічылі 76 беларусаў, хаця ў 1944 г. было іх 1602. Падобную калькуляцыю зрабілі ў гміне Баршчэва. Ураднікі дасылалі інфармацыю такую, якую хацелі б бачыць іх начальнікі. А калі аднаэтнічная дзяржава - дык без меншасцяў.

Гэты парадокс найлепш відаць на прыкладзе Сакольшчыны. У 1944 г. налічылі там 8170 беларусаў. З Сакольскага павета да канца 1946 г. выехала ў Савецкі Саюз 9680 чалавек. Гэта абазначае, што выехала больш беларусаў, чым жыло ў гэтым павеце, і... парадокс - да канца 1946 г. заставалася там яшчэ 9990 чалавек беларускай нацыянальнасці.

На пачатку 1949 г. зноў змянілася дзяржаўная палітыка ў адносінах да меншасцяў. Адміністрацыя пачала іх шукаць, бо прыйшоў зверху загад весці "інтэрнацыянальную палітыку". У лютым 1949 г. беластоцкі ваявода загадаў сабраць інфармацыю пра колькасць беларусаў у Сакольскім, Бельскім і Беластоцкім паветах. З усіх гмінаў Сакольшчыны адказалі аднолькава "няма ніводнага беларуса". Толькі ў гміне Кузніца-Беластоцкая налічылі 59 чалавек такой нацыянальнасці, але і тут праўдападобна мелі на ўвазе савецкіх грамадзян часова прабываючых на яе тэрыторыі. Калі стараста паінфармаваў ваяводу, што на тэрыторыі павета жыве ўсяго 59 беларусаў, атрымаў загад "яшчэ раз палічыць, колькі іх ёсць у сапраўднасці". 5 месяцаў збіралі гэтую інфармацыю і ў канцы 1949 г. атрымалася, што ў межах Сакольскага павета жыве 13909 беларусаў - 14,8 працэнта ад агульнага ліку насельніцтва. Зразумела, што 13909 гэта людзі праваслаўнага веравызнання, бо астатнія жыхары, каталікі, якіх лічылі палякамі, амаль усе гаварылі па-беларуску і рэдка ведалі іншую мову.

Даступныя дакументы, якія засталіся як след працы пасляваеннай адміністрацыі, дазваляюць пасведчыць лік беларусаў на Беласточчыне як мінімум на 160 тысяч чалавек. З увагі на вышэй названыя недакладнасці, праўдападобна ў рэчаіснасці быў ён на некалькі тысяч больш.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**




Астроне! Нейкія дзіўныя сны сняцца мне апошнім часам. Першы. Шырокая рака, цёмнасіняя вада ў ёй, спакойныя хвалі перасоўваюцца. На беразе стаіць карабель. Толькі выгляд яго зусім іншы, чым сапраўднага карабля. Ды, аказваецца, ён мой уласны. І я адна маю плысці ў ім. Крыху баюся, якраз таму, што адна. Але ведаю, што плысці мушу. Ці паплыла напэўна, не ведаю.

Другі сон. У маёй кватэры многа грыбоў, не праўдзіўкі, а розныя, так як у лесе збіраецца. Рассыпаны яны на дыване ў меншым пакоі і на ходніку ў пярэдняй. Адкуль яны ўзяліся — не ведаю.

І яшчэ адзін сон. Гэта ўжо на рабоце. У пакоі, у якім я працую, дзве сяброўкі, я і шэф. Гутарылі аб нечым. Пасля я выходжу з пакоя і іду ў буфет. У будынку робіцца штораз цямней і цямней. Я ўжо ўвайшла на першы паверх. Падыйшла крыху і павярнула назад. На калідоры спаткаю сяброўку з пакоя. Яна кажа: „А што, вы хацелі купіць туфлі?" І на тым канец.

**Марыя**

Марыя! Карабель сніць — значыла б для цябе шчаслівае сямейнае жыццё. Толькі чаму ты адна маеш плысці? Ці нешта цябе непакоіць? Мо са здароўем твайго мужа не зусім добра? Відаць занадта многа пра гэта думаеш. А ўсё ж дзякуй Богу, што не паплыла адна.

Гэты сон пра грыбы навеяны, бадай, рэчаіснасцю. Была ж восень, грыбоў шмат. Але наогул грыбы, калі яны прыгожыя, абазначаюць каханне.

Што датычыцца трэцяга сну, дык ён нічога асаблівага не абазначае. Думаеш пра нейкае падарожжа?

**АСТРОН**

---

## КАЛЯНДАР "НІВЫ" НА 1993 ГОД

будзе надрукаваны ў 1 нумары нашага тыднёвіка ад 3.01.1993 г.

У ім знойдзеце:

- даты паводле новага і старога стылю,
- польскія і беларускія імёны,
- царкоўныя і дзяржаўныя святы.

"Ніва" з календаром будзе прадавацца ў кіёсках цэлы студзень. Скажыце аб гэтым суседзям і знаёмым.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ЦІ БЫЎ ТУР ЯЗЫЧНІЦКІМ БОГАМ?

Цяпер ужо даследчыкамі сабрана шмат фактычнага матэрыялу, на аснове якога з большай верагоднасцю можна меркаваць, што першабытны вымерлы бык быў не проста паэтычным персанажам, а "паганскім" культам. Па выгляду тур быў падобны на зубра і адрозніваўся ад яго "чорнай з белай паласой уздоўж хрыбта". Вядома, што апошняя жывёліна была забіта ў Польшчы ў 1627 годзе. Пра тура пісалі Пліній, Сенека, Марцыян, Юлій Цэзар і іншыя. Ён быў аб'ектам палявання князёў, упаміналася ў "Слове пра паход Ігараў", Іпацьеўскім летапісе. З рога жывёлы рабілі музычны духавы інструмент, аздаблялі яго каштоўнасцямі. Грозная жывёліна апявалася як у старажытнай літаратуры, так і ў вуснай народнай творчасці.

У некаторых летапісах упамінаецца, як на ігрышчах вадзілі тура-сатану. Сярод славян раней шырока было вядома вясенняе свята Турыцы, на якім упрыгожвалі свойскіх жывёл, частавалі іх, спявалі песні.

Даследчыкі фальклору А. Афанасьеў, П. Галубоўскі, А. Фамініцын лічылі тура мясцовым язычніцкім боствам і ўпадаблялі яго Перуну, Ярыле. Б. Рыбакоў бачыць у знойдзеных археалагічных радзіміцкіх падвесках з адлюстраваннямі галавы быка і сямю дзявочымі фігуркамі сляды абраду Турыц, падобных да грэчаскіх таўракатапсій. На Турыцы насілі маскі тура. На той жа радзіміцкай зямлі ў некаторых раёнах на навагоднія святы "вадзілі тура", абрад якога падобны на "ваджэнне казы". Ёсць беларускія народныя гульні, у якіх праяўляюцца сляды культу быка, "буй-тура" ці "яр-тура", якога жанілі, ахвяравалі яму маладых дзяўчат. Гэта - "Гульня ў тура", "Бычок" і іншыя. Да XIX стагоддзя ў нашчадкаў дрыгавічоў і вяцічаў зберагаліся галаўныя ўборы з "тур'імі" рагамі. А ў Кіеве была знойдзена "Турава бажніца". У многіх тапанімічных назвах Беларусі захоўваецца корань "тур".

**АЛЕСЬ ЛОЗКА**



Фота Янкі Целушэцкага

*МІКОЛА ЧАРНЯЎСКІ*

**НОВЫ ГОД**

Пасінеў на рэках лёд,
Неба ў ясных зорках.
Зноў прыйшоў к нам Новы год
З песнямі і ёлкай.
Водзіць з намі карагод
Сам Мароз-дзядуля.
Многа казак у яго
І вясёлых гульняў.

* * *

*З НАРОДНАГА*

Дзед Мароз, дзед Мароз
Дзецям ёлачку прынёс.
А на ёлачцы зялёнай
Цацак, лялек карагоды!
Ярка свецяцца агні!
Вось як хораша -
Зірні!

* * *

*СЯРЖУК СОКАЛАЎ - ВОЮШ*

**ЕЛКА**

Елка ў ельніку жыла,
Елка ў ельніку расла.
Елку везлі нам на свята
Белы зайка і жаўна.
Як прывезлі елку ў хату -
Стала ёлачкай яна.

* * *

*ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА*

**ЛЁГКІЯ СНЯЖЫНКІ Ў ЦІШЫ...**

Лёгкія сняжынкі у цішы
Долу апускаюцца нясмела...
Светла ў полі, светла на душы...
Лёгкія сняжынкі у цішы...
Спіць сасна ў бахматым шалашы,
А навокал так бялютка-бела...
Лёгкія сняжынкі у цішы
Долу апускаюцца нясмела.

ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ

## СКОРАГАВОРКІ

**ВЯТРАМІ ПАДШЫТЫ**

Дажджамі пакрыты,
Вятрамі падшыты
У грака пінжак.
Крычыць на грачыху,
Грачыху-краўчыху
Прастуджаны грак.

**ЧАПЯЛА І ЧАПЛЯ**

Чапяла з хаты ўцякла, раскрычалася,
Чапяла да чаплі чаплялася:
- Чаму, чапля, ногі доўгія ты маеш?
Чаму, чапля, па балоце ты блукаеш?
Але чапля смяяцца пачала:
- Чапу-ляпу, чапу-ляпу,
Пешаходаў не чапай, чапяла!

**ХВАЛІЛАСЯ КАША**

Аржаная каша сама сябе хваліць,
Прасяная каша сама сябе хваліць.
Якая ж каша слушна кажа?
Хто адкажа?
- Я! - сказаў Яша. -
Прагнала мой кашаль
Аўсяная каша!



*— Смачна есці!*
Фота Міколы Ваўранюка

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### ПАДСТУПНЫЯ МУРАШКІ

Аднойчы мышка Пік-Пік ляжала на сваёй канапе і пераварвала ў страўніку добры абед. Раптам недзе з падлогі пачуўся тоненькі галасок:

- Шаноўная мышка!

Пік-Пік агледзелася наўкола і нікога не заўважыла. А галасок не змаўкаў:

- Пані мышка! Паглядзіце сюды, я тут!

Мышка паглядзела на падлогу і проста ля сваёй канапы з татавай пантофлі ўбачыла рудую мурашку.

- Табе што трэба?!- разззлавалася мышка. - Не бачыш хіба - я адпачываю!

- Шаноўная мышка! - запішчэла мурашка. - Мяне паслалі да вас па дапамогу. У нас ёсць вялікі мех найлепшага цукру, але мы ніяк не можам яго прагрызці... Каб вы згадзіліся трохі папрацаваць сваімі зубкамі, то вы мелі б столькі цудоўнага цукру, колькі б захацелі. А мы ўжо, мурашкі, падабралі б тое, што застанецца...

Пік-Пік адразу ўскочыла з канапы:

- Ну, дзе ваш цукар? Вядзі!!

І мурашка павяла мышку праз знакамітую дзірку, якую прарабіў пан Абадран. Як Пік-Пік не спяшалася, але, зразумела, не забылася прыхапіць цэлы жмут пустых цэлафанавых мяшэчкаў - на цукар.

Мурашка доўга вяла Пік-Пік па вентыляцыйнай трубе, а пасля звярнула ў адзін бок, потым - у другі... Карацей, шлях быў такі блытаны, што Пік-Пік сама б нізавошта не дабралася.

Нарэшце, наперадзе паказалася святло. Мурашка падвяла мышку да невялікай адтуліны і сказала:

- Цяпер, шаноўная мышка, вам варта толькі скочыць уніз, каб апынуцца на жаданым мяшку.

Мышка скочыла і сапраўды ўпала на пругкі мех, вялікі, як два тэлевізары. Мех складаўся з дзвюх абалонак: першая была з густой белай тканіны, а другая - з цэлафану. Менавіта гэты цэлафан і не даў мурашкам дабрацца да цукру. Мышка імгненна прагрызла ў мяшку вялікую дзірку, і адтуль сыпануў белы салодкі пясок. Але не паспела мышка распраставаць свае мяшочкі, як уся кладоўка зрабілася рудой ад мноства мурашак. Яны расцягвалі цукар у шматлікія адтуліны так хутка, што мышка адчула, што падае!.. Калі ж Пік-Пік ачомалася ад падзення, дык убачыла, што сядзіць на пустым мяшку, а побач няма ні адной мурашкі.

- Эй, дзе вы? - паклікала мышка.

Цішыня!

- Што ж рабіць? - замітусілася Пік-Пік. - Цукру няма, сяджу невядома дзе...

Вяртацца ранейшым шляхам было немагчыма - адтуліна, праз якую мышка трапіла ў кладоўку, была занадта высока. Давялося прагрызці дзверы кладоўкі і выйсці ў чужую кватэру. Мышка ціхенька прабіралася па калідоры, калі раптам пачуўся гучны брэх, і вялікі сабака з кароткай поўсцю кінуўся на мышку. Пік-Пік схавалася пад шафу, а сабака ўсё брахаў. На шчасце, падала голас гаспадыня:

- Чуеш, сабака брэша? Пэўна, на двор захацеў. Ідзі хутчэй вывядзі!

Гаспадар сабакі, да якога звярнулася гаспадыня, неахвотна пабурчэў, але начапіў сабаку павадок і пацягнуў да дзвярэй. Мышка якраз паспела выскачыць следам за гаспадаром і сабакам на лесвіцу, а адтуль - на двор.

На шчасце, Пік-Пік ужо ведала свой пад'езд і таму хутка вярнулася дадому, праўда, без цукру.

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**



ЭЛЕАНОР ФАРДЖН

# МАЛЕНЬКАЯ КЕЙТ

Даўным-даўно на самым ускрайку горада ў маленькім цёмным доміку жыла сабе старая міс Доў. А пакаёўкай у яе была маленькая Кейт. Аднойчы міс Доў загадала Кейт вымыць вокны ў свяцёлцы. Калі дзяўчынка іх мыла, убачыла паплавы, якія шырыліся за горадам. І вось, скончыўшы працу, яна запытала ў сваё гаспадыні:

- Пані, ці можна мне пайсці пагуляць на поплаў?

- Ну, не, - адказала міс Доў. - Ты не павінна выходзіць на поплаў!

- Чаму, пані?

- Таму, што там можна сустрэць Зялёную Кабету. Зачыні фортачку і займіся цыраваннем!

На наступны тыдзень Кейт зноў мыла шыбы ў свяцёлцы і на гэты раз убачыла рачулку, што віднела ў даліне. Скончыўшы працу, Кейт сказала міс Доў:

- Пані Доў, дазвольце мне схадзіць на рэчку.

- О, не, - сказала міс Доў. - Ты ніколі не хадзі да ракі!

- А чаму ж не, пані?

- Таму што там можна сустрэць Рачнога Цара. Зачыні дзверы і нашаруй медны посуд.

Яшчэ праз тыдзень, мыючы вокны ў свяцёлцы, Кейт убачыла лес на ўзгорку. Выканаўшы працу, яна пайшла да міс Доў і запыталася:

- Пані, ці можна мне пахадзіць па лесе?

- Ні ў якім разе. Ніколі нават не падыходзь да лесу!

- О, пані! Чаму нельга туды ісці?

- Таму, што там можна напаткаць Хлопца Скок-Падскока! Зашморгні фіранкі і абяры бульбу.

Міс Доў ніколі болей не даручала Кейт прыбіраць у свяцёлцы, і шэсць наступных год Кейт мыла, скрэбла, цыравала шкарпэткі, абірала бульбу, і ніколі не выходзіла з дому. Урэшцерэшт міс Доў памерла, і Кейт вымушана была шукаць іншую працу. Яе новая гаспадыня жыла ў доме з другога боку ўзгорка. Кейт не мела грошай, каб даехаць туды, таму ёй давялося ісці пешкі. Але дзяўчынка не пайшла па дарозе. Амаль адразу яна збочыла на поплаў, і першай асобай, якую яна сустрэла, была Зялёная Кабета, якая садзіла кветкі.

- Добры дзень, маленькая Кейт, - прывіталася яна. - Куды гэта ты ідзеш?

- У той горад, што за ўзгоркам.

- Калі ты спяшаешся, дык лепей было ісці па дарозе, - сказала Зялёная Кабета. - Бо тым, хто не пасадзіць тут кветку, я не дазваляю прайсці праз мае паплавы.

- Але ж я з задавальненнем пасаджу кветку, - адказала Кейт.

Яна ўзяла ў Зялёнай Кабеты маленькую рыдлёўку і пасадзіла стакротку.

- Дзякуй табе, - ласкава прамовіла Зялёная Кабета. - А цяпер назбірай сабе кветак.

Кейт сабрала прыгожы букет, і Зялёная Кабета сказала ёй на развітанне:

- За кожную кветку, што ты пасадзіш, заўсёды можаш сарваць пяцьдзесят.

Кейт пайшла далей, у даліну, дзе цякла рака, і першым, каго яна там убачыла, быў Рачны Цар.

- Дзень добры, маленькая Кейт. - прывітаўся ён. - Куды гэта ты ідзеш?

- У горад, што за ўзгоркам.

- Не трэба было ісці да ракі, калі ты хоць крышку спяшаешся, бо нікому нельга прайсці тут не затрымаўшыся, каб праспяваць песню.

- Я зраблю гэта з радасцю, - сказала Кейт і, сеўшы на траву, заспявала.

- Дзякуй табе, - адказаў Рачны Цар. - А цяпер паслухай мяне.

І да вечара ён спяваў песні, адна прыгажэйшая за другую. А калі скончыў, пацалаваў Кейт і сказаў:

- За кожную песню, што ты заспяваеш, заўжды пачуеш пяцьдзесят.

Кейт пайшла далей, да лесу, што рос на ўзгорку. Першым, каго яна там сустрэла, быў Хлопец Скок-Падскок.

- Вечар добры, маленькая Кейт, - прывітаўся ён. - Куды гэта ты ідзеш?

- У горад, што за ўзгоркам.

- Трэба было трымацца дарогі, калі ты хацела трапіць туды да раніцы, - сказаў Хлопец. - Бо я не прапускаю праз свой лес нікога, хто не патанчыць для мяне.

- Я паспрабую, - адказала Кейт і пачала танчыць, як умела.

- Дзякуй табе, - сказаў Хлопец. - А цяпер паглядзі не мяне.

І ён танчыў для яе, пакуль месяц не схаваўся. Раніцай Хлопец Скок-Падскок пацалаваў Кейт і сказаў:

- За кожны твой танец ты заўжды ўбачыш пяцьдзесят.

Кейт прыйшла ў горад, дзе нанялася ў пакаёўкі да старой міс Дру, якая жыла ў маленькім цёмным доміку і ніколі не дазваляла дзяўчыне пайсці на поплаў, да ракі ці ў лес і зачыняла дом а сёмай вечара.

Але час ішоў. Маленькая Кейт вырасла, выйшла замуж, у яе з'явіліся дзеці. Яна наняла таксама маленькую пакаёўку. Кожны вечар, калі ўся праца была скончана, Кейт адчыняла дзверы і казала:

- А зараз, дзеткі, бяжыце на поплаў ці да ракі, ці ў лес, што на ўзгорку. Можа, вам пашанцуе і вы сустрэнеце Зялёную Кабету ці Рачнога Цара, ці Хлопца Скок-Падскока.

Дзеці і маленькая пакаёўка беглі гуляць і праз нейкі час яны шчаслівыя і вясёлыя, з песнямі, танцамі і букетамі кветак вярталіся дадому.

З англійскай мовы пераклала
**АЛЕНА АРЛОВА**









- Э, пане, не крыўдуй, але панская ласка, жончын язык ды пасынкава любоў да айчыма - аднаго варты.

Не паверыў пан. Паспрачаліся яны.

## ПАНСКАЯ ЛАСКА.
Беларуская народная казка

Л.Ш. 92



























ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# СКВАРКІ

Калі ж гэта пост пачаўся? А Яська нават і не памятае. У яе цяпер усе дні роўныя — няма ні свят, ні імянін, ні нават дня нараджэння. Расчараваўшыся ў касцёле, Яська пачала шукаць праўду з сектантамі. Цяпер для яе ўсе дні аднолькава важныя.

Бацька не сцярпеў знявагі. Дрэва, што трымаў ёй на хату, прадаў людзям, Яськцы не даўшы з гэтага ні граша. Ды і наогул, чаго ўцякала ў горад? Ці там было ёй свайго шчасця шукаць? Узяла б хлопца вясковага, працавітага, то жылі б на вёсцы прыпяваючы. Тады і хату б ёй сваімі рукамі паставіў. А так узяла гарадскога, паніча, можна сказаць. Працаваў у будаўніцтве, зарабляў някепска. Але ж вось, дамоў цяпер набудавалі, а купляць кватэры няма каму. Адкуль жа ў людзей такія грошы... Хто грошы меў, даўно сабе вілу пабудаваў.

Ясьчын муж стаў беспрацоўным. Шмат такіх, але ж людзі неяк абсталёўваюцца. А яго не загнаць да працы. Да прывацяжа працаваць не пойдзе. А куды ж ты пойдзеш, небарача, калі адно мураваць умееш...

Яська стараецца на ўсе бакі, каб накарміць мужа і дзяцей. Не крадзе, не камбінуе, але ўчціва прабуе падзарабіць дзе толькі можа. Гатова прыняць любую працу, нават найбруднейшую і найцяжэйшую. Бо што яна заробіць, прыбіраючы ў школе?.. Ці ж сям'ю за гэта ўтрымаеш... Толькі вось на гандаль не згаджаецца. А прапановы былі, каб прадавала на вуліцы. Куды там ёй лезці на мароз з яе рэўматызмам... Як зляжа зусім, дык дзеці прапалі...

Муж шукае працу, здаецца, толькі на словах. Бо ў суме ўсё зводзіцца да чытання аб'яў у газетах. Калі ласка, ідзі, будуй прыватную вілу! А дзе ж ты яе возьмеш, тую дзяржаўную пасаду?..

Яська бачыць, што мужу памалу пачынае падабацца такі стан. Спіць колькі хоча, часамі выходзіць да сяброў — у іх таксама цяпер часу ёсць, пару разоў дык і п'яны вярнуўся. А Яську аж калоціць. Раз — што вера яе не дазваляе піць, два — адкуль бярэ грошы?

Хоць Яська цяпер посту не прызнае, добра сёлета пост адчула. Праўда, быў ён скаромны, але папасціла на сто два. Зімовыя месяцы надта доўгія, а выдаткаў шмат. За пакойчык у старой летняй кухні, дзе гнездзяцца яны ўчацвярых, за пару месяцаў заплаціла. „Кухня", праўда, ужо развальваецца, але плату гаспадыня выціскае з Яські рэгулярна. Муж неяк нічым не пераймаецца, а і бацькава сэрца не крушэе.

Затое маці стараецца як можа. Хоць пару соцень дакіне штомесяц з сялянскай рэнты. І парсючкоў жа колькі гадуе. Але ці ж у бацькі грош з рук вырвеш?.. Яна — гадуе, ён — завязе на рынак ды прадасць, а грошы — сабе ў кішэнь, ці на гарэлку.

У канцы лістапада маці дала Ясьцы крыху сала. А ў Яські газ якраз скончыўся. Дык папрасіла сяброўку, каб гэта сала ператапіла. Сяброўка была ахвотная — Яська за дапамогу дакляравала ёй палову шмальцу. Бо Яська, каб і газ той быў, то калі б мела час гэтым займацца... Яе час — гэта свежы грош...

Сяброўка сала ператапіла, а Яська ўжо скваркі сама пракруціла праз мясарубку. Дадала часнаку, паху было на ўвесь калідорчык, у якім скваркі круціла, а нават і на пакой. О-о! Скваркі з часнаком...

Каб была не зрабіла гэтых скварак, кепска было б ім у апошнім месяцы. Толькі яны і выратавалі . У хаце ўжо амаль нічога не было — ні цукру, ні мукі, ні чаю, Ну, але сок яшчэ нейкі быў ды кіслыя агуркі, што Яська на зіму паставіла. Праўда, бульба ж яшчэ была, якую маці нядаўна дала, а Яська з мужам на аўтобусе за пару субот перавезлі.

Фрыкті смажылі ў шмальцы, але найбольш елі хлеб з часночнымі скваркамі. Толькі хлеб Яська і дакупляла, на яго мусілі знайсціся грошы, ды так елі толькі гэта цэлых дзесяць дзён, аж пакуль Яська грошай не ўзяла перад самымі святамі. Ці ж не пост гэта быў, хоць і быў скаромны?

* * *

Новая вера, новыя часы, новае жыццё... А і так выйшла, што святкуе Яська па-старому, бо прынамсі ў свята, як чалавек, з сям'ёй наелася.

АДА ЧАЧУГА



## КАСЯК НА „М"




**Управа:** 1/ сусед падляшука, 2/ спецыяліст па рамонце машын, 3/ найменшы з пяці, 4/ тканіна, 5/ травяністая расліна з ядавітым белым сокам, 6/ у руках каваля.

**Улева:** 7/ тэхнічная мадэль, 8/ прыток Буга, які плыве праз Бярэсце, 9/ неарганічнае злучэнне ў выглядзе крышталяў, 10/ багаты апякун навук і мастацтва, 11/ птушка сямейства ястрабіных,лунь, 12/ расціранне цела.

ядань

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на касяк з 45 н-ра. **Управа:** асада, абдымкі, акуліст, Арынока, антракт, асіна. **Улева:** асоба, адсылка, акуляры, асананс, актрыса, акунь.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць **Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч** з Беластока (за кніжкамі просім зайсці ў рэдакцыю).

ЗЁЛКІ-ЛЕКІ

## МАЯРАН САДОВЫ

Маяран з'яўляецца адной з найбольш папулярных прыпраў у Польшчы. Паходзіць яна з паўднёвых раёнаў Міжземнага мора, расце таксама дзіка на паўночных берагах Афрыкі і ў паўднёва-ўсходняй Азіі. Там вырастае да вышыні 1 метра.

Лісце маярану дробнае, авальнае, пакрытае валаскамі — гэта прыдае расліне серабрысты выгляд. Кветкі маленькія, з белай кронай, сабраныя бліжцам у каласкі.

Цвіце маяран ад ліпеня-жніўня аж да позняй восені. Запыляюць яго розныя насякомыя, асабліва пчолы і чмялі, а таксама каля 12 гатункаў мух ды нават маленькія матылькі. Восенню, калі ўжо мала раслін цвіце, яго інтэнсіўна наведваюць пчолы.

Сыравінай маярану з'яўляюцца кветкі і лісце. У гандлі знаходзіцца маяран расцерты, у выглядзе парашку. Такія зёлкі вельмі зручныя для выкарыстання, але менш араматныя, паколькі арамат губляецца ў часе раздраблення зёлак.

Найбольш рацыянальна было б перахоўваць цэлую расліну і раздрабляць сыравіну перад самым выкарыстаннем (без сцябла).

Арамат губляецца таксама пад уплывам тэмпературы, таму маяран павінен сушыцца пры тэмпературы не вышэйшай 30—35 градусаў. Захоўваюць маяран у шчыльнай упакоўцы і не даўжэй 1 года.

Маяран быў вядомы ўжо ў старажытнасці, перш за ўсё ў якасці лячэбнай і культавай расліны. У Індыі, напрыклад, маяран лічыўся святой раслінай.

У Еўропу маяран трапіў пры дапамозе арабскіх купцоў. Там, як і на Усходзе, у старажытным Егіпце, Грэцыі і Рыме прымяняўся пры лячэнні розных хвароб і, з увагі на яго арамат, пры рэлігійных цырымоніях і ў часе розных урачыстых бясед. Не ўпамінаецца пра выкарыстанне яго ў кулінарыі.

Яшчэ на працягу цэлага сярэдневякоўя маяран лічыўся каштоўнай лячэбнай раслінай, якой прыпісваліся цудадзейныя якасці, як, напрыклад, праясненне розуму, узмацненне сэрца, павелічэнне сексуальных магчымасцей, а таксама супраць пухлін, канвульсій, укусаў змей і скарпіёнаў, камянёў у нырках і г.д.

З часам, аднак, слабела вера ў лячэбныя якасці гэтай расліны, тым больш, што праведзены ў XVII стагоддзі аналіз яе хімічнага складу не даваў падстаў да яе настолькі ўсебаковага дзеяння. А ўсё ж яшчэ да сёння маяран адыгрывае пэўную ролю як лякарства ў народнай і неканвенцыянальнай медыцыне, асабліва ў некаторых краінах Еўропы. Робяць з яго мазь супраць катараў, а таксама масла супраць рэўматычных боляў, але галоўнай дадатняй рысай маярану з'яўляецца яго дабрадзейны ўплыў на апетыт. Узбуджае ён працу страўніка і гэтым, між іншым, тлумачыцца папулярнасць маярану як прыправы.

Маяран з'яўляецца перш за ўсё прыправай да тлустага мяса — свініны, бараніны, гусей, качак. Дадаюць яе таксама да сечанага мяса: паштэтаў, пяльменяў, флячкаў, каўбасы (у Германіі маяран нават называюць каўбаснымі зёлкамі). Падыходзіць маяран таксама да рыбных страў, некаторых сыроў, супоў, гароху, фасолі, грыбоў, соусаў, салатаў, амлетаў. З увагі на свой смак і запах маяран выкарыстоўваецца ў бяссольнай дыеце. Добра гарманізуе ён у стравах з чабарам.

Доследы польскіх вучоных з апошніх гадоў сцвярджаюць, што маяран тармозіць ялчэнне тлушчаў. Калі дадаць яго да свінога тлушчу, тлушч намнога даўжэй захавае свао свежасць. Таму, між іншым, націраюць маяранам мяса гусей і качак.

У Польшчу гэта расліна трапіла з поўдня Еўропы разам з хрысціянскімі кляштарамі. Распаўсюдзілася, аднак, толькі ў перыяд Рэнесансу, калі пачалі яе сеяць у агародах заможных людзей. Сёння маяран вырошчваюць у нас спецыялізаваныя гаспадаркі па зёлках, але многія сеюць яго ў сваіх агародчыках, а нават на балконах.

Хаця ў сваёй айчыне маяран з'яўляецца шматгадовай раслінай, у нас яе сеюць штогод, паколькі пры тэмпературы -1 градуса Цэльсія яна вымярзае.

Маяран вырошчваюць, высяваючы насенне непасрэдна ў глебу, і сеючы яго ў парніках, а пасля перасаджваючы расаду ў поле. Гэты спосаб з расадай патрабуе больш працы, але дазваляе атрымліваць ураджай раней і лепшы.

На вялікіх плантацыях найчасцей насенне высяваюць адразу ў глебу. Поле павінна быць добра падрыхтавана, нельга дапусціць, каб на ім было пустазелле.

Першы ўраджай збіраюць перад цвіценнем, што ў нашых умовах прыпадае на канец ліпеня—пачатак жніўня. Зёлкі зразаюць не ніжэй чым над 3—4 парамі лісця, каб расліна магла адрасці. Наступны ўраджай збіраюць праз 6 тыдняў. У спрыяльных варунках збіраюць нават па тры ўраджаі.

ЭСКУЛАП



**САРДЭЧНА ДЗЯКУЕМ**

нашай вернай чытачцы спадарыні **ЗОЇ СМАРШЧОК** з горада Гевер у Бельгіі за калядны падарунак — 3000 бельгійскіх франкаў для „Нівы".




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міраковіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1993 r. upływa 20 lutego 1993 r.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. w I kwartale 1993 r. wraz z wysyłką wyniesie 4000 zł., a kwartalnie - 52000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МАКАТРАЗМЫ

**АМОК**

Цёмныя сілы кружаць над намі —
Здрада і мафія, змова, „*Art-B*";
Усе з расчаперанымі посткіпцюрамі,
І кожнаму прыхадню лобам бі.

**ФАКС**

Выпрастаў спіны
Вывадак змяіны.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## ПРОСТА АНЕКДОТ

— Пяць гадоў назад мы з мужам упершыню адпачывалі асобна.
— Ну і як? Мужу спадабалася?
— Не ведаю: ён яшчэ не вярнуўся.

* * *

Прачнуўшыся раніцай, жонка гаворыць мужу:
— Мне толькі што прыснілася, што ты падарыў мне жамчужны ашыйнік. Што гэта магло б значыць?
— Даведаешся сягоння вечарам, — адказвае ён.
Вечарам муж вяртаецца дадому з пакуначкам і ўручае яго жонцы. У захапленні яна развязвае яго — і бачыць кніжку пад загалоўкам „Тлумачэнне сноў".

* * *

— Не ведаю, што рабіць, — скардзіцца пацыент доктару. — Мая жонка думае, што яна — раяль.
— У такім выпадку прывязіце яе да мяне, — кажа дроктар.
— Што вы, з розуму сышлі? — крыкнуў муж. — Ці вы ведаеце, колькі цяпер каштуе перавозка раяля?

* * *

Сцяпан вяртаецца дадому і гаворыць жонцы:
— Ты ведаеш, сёння я не забыў свой парасон, я прынёс яго з сабою.
— Але, мой даражэнькі, сёння раніцай ты пайшоў на працу без парасона.

* * *

— Сыграйце што-небудзь, — просіць гаспадыня госця-музыканта.
— Калі ласка. Але што?
— Што хочаце, абы суседзям дапячы.

* * *

— Дай мне пяцьдзесят тысяч злотых, а то я ўвесь аванс учора патраціў на выпіўку.
— З якой нагоды была выпіўка?
— З нагоды авансу.

Падборку зрабіў
**ЯСЕНЬ**

# НАЎКА



— *З Новым годам, дарагі!* **Мал. П. Козіча**

## ДАСУСТРАКАЛІСЯ

Недзе а гадзіне 10-ай вечарам сабраліся ў нас госці. Селі за святочны стол, выпілі па чарцы-другой і... асалавелі. Каб падняць настрой, я прапанаваў пачаць сустракаць Новы год па-балгарску. Госці адразу пажвавелі, загаманілі, папрасілі растлумачыць, як жа сустракаюць Новы год у Балгарыі. Я растлумачыў, што калі выключаецца святло, то ўсе цалуюцца.

— Давай, — крычаць, — дзейнічаць!

Я даў каманду свайму сябру Міхасю, ён шчоўкнуў выключальнікам, святло пагасла і... Праз некалькі хвілін яно ўспыхнула зноў. І што ж я ўбачыў ?!

Міхась цалуе нашу суседку, я сяджу ў абдымку з незнаёмай мне кабетай, а мая жонка стаіць адзінока каля выключальніка. Вочы яе гараць ярчэй бенгальскіх агнёў. У руцэ яна трымае чаравік, патрабуючы сустракаць Новы год па-фінску. У Фінляндыі ёсць такі звычай — у ноч перад надыходам Новага года шпурляецца чаравікам. Ну, чакаць, пакуль жонка сваё жаданне ператворыць у дзеянне, мы з Міхасём не сталі... Выкаціўшыся на лесвічную пляцоўку, я сказаў майму сябруку:

— Ну іх, Міхал, да д'ябла! Давай лепш сустракаць Новы год па-ангельску.

— А гэта як, — пытаецца ён.

— Ну, у іх так усё вельмі проста. Бярэш кавалак вугалю, загортваеш у паперу і ідзеш у першую хату.

— А навошта вугаль?! — здзівіўся Міхась.

— А халера яго ведае, я там не быў...

Як мы трапілі ў першую ж хату, ужо не памятаю. Толькі павесяліліся мы там на славу. Пасля таго, як мы з ім заспявалі італьянскую песню на невядома на якой мове, да мяне падыйшла гаспадыня і сказала:

— І дзе гэта я вас бачыла? Ці не ў кіно?

— У кіно, у кіно. Я здымаюся ў італьянскіх фільмах, — ганю я „гусей", як ні ў чым не бывала. — А ці не сустрэць нам Новы год па-італьянску?!

— Давай, — гукаюць, — валяй!

Я падыходжу да акна, адкрываю насцеж балконныя дзверы і пачынаю выкідваць за акно лішнія рэчы — у італьянцаў ёсць такая звычка выкідваць у навагоднюю ноч старыя, непатрэбныя рэчы... За акно паляцелі статуэтка, крэсла, крыштальная ваза... Як я апынуўся з Міхасём за акном, не памятаю. Толькі чую, што нешта на мяне ліецца, падобнае на ваду. Ці не ў Бірму мы трапілі, бо ў іх там такі звычай: у навагоднюю ноч паліваць адзін другога халоднай вадой. Перапалохаўся я: у чужой краіне без дакументаў, без граша ў кішэні... Ды й кішэні няма?! Ляжу, у чым мама некалі нарадзіла. Чую, побач сапе цяжка Міхал, і таксама ў гарнітуры Адама...

Дзякаваць Богу, што не ў Індыю трапілі, а то ў іх такая ёсць завядзёнка: сустракаць Новы год сорак разоў на год...

**ПЯТРУСЬ КАПЧЫК**

## СМЕХАТЭРАПІЯ

**З Марксам не згодны**
Малады інтэлектуал П. Жмурэнка рашуча адхіліў прапанову каханай пайсці з ёю на канцэрт класічнай музыкі. Ён растлумачыў гэта тым, што катэгарычна не прымае марксісцкую тэорыю падзелу грамадства на класы.

**Па прыкладу Пятра І**
Нядаўна закончылася спроба будаўніка С. Цюцькіна па прыкладу Пятра І „прарубіць акно ў Еўропу". Пры выхадзе яго затрымалі супрацоўнікі міліцыі, калі ён выносіў з будаўнічага вагончыка раму са шклом.

**Перамагла дружба**
Як нядаўна высветлілася, у горадзе Блатарэцку ў барацьбе мясцовых праваахоўных органаў з арганізаванай злачыннасцю перамагла дружба.

**Для пудзілаў**
Вялікую партыю верхняга адзення мясцовай фабрыкі горада Казлуйска закупіў бізнесмен О'Хара і... выгадна прадаў яе фермерам сваёй краіны. На агародныя пудзілы.

**Выпадак з Гарбачовым**
Учора трапіў у медвыцвярэзнік Фёдар Гарбачоў — блізкі сваяк вядомага Сцяпана Гарбачова.

**Мінамёты**
Амерыканскія мінамёты ўсё больш выкарыстоўваюцца афганскімі контррэвалюцыянерамі. Вось як апісвае гэта аглядальнік радыёстанцы „Эй-вы-там": „Афганскі контррэвалюцыянер бярэ ў рукі мінамёт, робіць на твары страшэнную міну і кідае яе ў працўніка".

**Навінка**
На Мінскім заводзе халадзільнікаў пачалі выраб новай унікальнай мадэлі. Прадукты ў такім халадзільніку могуць захоўвацца тры дні, пасля чаго іх можна спакойна выкінуць.

**І палітыкі памыляюцца**
Учора Леанід Краўчук пазваніў Нурсултану Назарбаеву. Пасля двухгадзінных перагавораў па праблемах ядзерных узбраенняў і каардынацыі сумеснай палітыкі ў ваеннай галіне высветлілася, што Краўчук памыліўся нумарам.

(*„Звязда"*)






## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькае Сэрцайка! Ён быў заўсёды мілы, мо аж занадта. Мяўкаў — як кот. І як жа яму можна было не верыць?! А пры ўсім гэтым, здавалася, быў такі закаханы. Калі б мне сказалі, што мой хлопец няшчыры ў адносінах да мяне, ці што мае яшчэ нейкую дзяўчыну, ніколі б не паверыла.

Я была без памяці закаханая, хадзіла за ім даслоўна на прывязі. Рабіла ўсё, як ён хацеў. А хацеў ад мяне поўнай адданасці. Я забывалася пра ўсё на свеце дзеля яго. Не спадзявалася, што калі зацяжару, ён адвернецца ад мяне. А ён узяў ды адвярнуўся.

Вядома, адразу меркавала, што я буду старацца гэтай цяжарнасці пазбыцца. Калі зразумеў, што я гэтага не зраблю, зусім перастаў прыходзіць да мяне, хаця і ў часе апошняга спаткання мяўкаў як заўсёды.

Сэрцайка! Можаш уявіць сабе, як мне было адной хадзіць з жыватом. Усе ж ведалі, што я незамужняя, што мой хлопец мяне кінуў. Але вытрымала ўсе пагардлівыя позіркі сяброўак, хаця вышрпела пры гэтым столькі, што хопіць на ўсё жыццё. А ён толькі раз пазваніў, быццам хочучы ўпэўніцца, ці яшчэ жыву.

Нарадзіла я дзіця. Наведаў мяне мой каханы. Прыйшоў не адзін, а з дзяўчынай. Я замерла, ну, думаю, зараз скажа, што жэніцца з ёю. Але ж не. Была гэта адна з „яго" дзяўчат. А ён найбольш прыглядаўся, ці дзіця падобнае на яго, каб упэўніцца, ці не трэба будзе плаціць аліменты на чужое. Я зразумела, што не магу без яго! Наведваў нас ад таго часу прыблізна раз у месяц. Зразумела, цяпер ужо прыходзіў адзін. Ізноў мяўкаў, але да дзіцяці сэрца не меў. Усё прабаваў адцягнуць аліменты, але я ў гэтай справе была цвёрдая. Не хочаш быць маім мужам — не будзь ім, але дзіця тваё — дык плаці! Ён крыху ўзлаваўся, але аліменты пачаў плаціць. Надалей наведваў нас.

Я не разумела, чаму, калі ён прыходзіць, не хоча ажаніцца са мною. Ну, няхай бы нават каханне прайшло. Але ж можна было б зрабіць гэта нават для дзіцяці! Сказаў, што ажэніцца са мною, калі дзіцяці споўніцца годзік. Мне было прыемна, што ён так плануе, і я гатова была чакаць.

Але мінаў час. Мы пачалі сустракацца ізноў, як калісь — у пасцелі. Для мяне ён быў найбольш жаданы, я кахала яго яшчэ больш, бо быў бацькам майго дзіцяці. Жаніцца ён, аднак, не спяшаўся. Сказаў, што пажэнімся, калі малой будзе два гады. Я ізноў узброілася чаканнем.

Свету за ім я не бачыла, а ён быў такі сабе. Можа, было б мне лягчэй, калі б ён тады адыйшоў назаўсёды. Супакоілася б, ахаланула. А так... Штораз падаграваў мае пачуцці, і тады яго холад рэзаў мяне па сэрцы. Ён абяцаў, я чакала. І дацягнулася справа да таго часу, калі дзяўчынка пайшла ў школу. А ён неўзабаве пераехаў працаваць у іншы горад, і след па ім загінуў. Не ведаю нават, дзе шукаць яго, а аліменты плаціць яго сястра.

Сумна мне. Нягледзячы на тое, што выматаў маю душу, паляцела б да яго на крылах. Як жыць, Сэрцайка?

**Лёля**

Лёля! Мусіш мабілізавацца і забыць пра гэтага чалавека. Ён столькі год тыраніў цябе абяцанкамі, што ты ўжо не ведаеш, на якім свеце жывеш. Адбілася ад людзей, бачыш толькі яго. Каб не ён, ужо б даўно чалавека знайшла.

Адна з форм тыраніі — даваць надзею.

**СЭРЦАЙКА**